**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 16 (889) 20 красавіка 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by


Глыбокае,
вул. Шпітальная.
16.04.2017

**Такой завеі на Вялікдзень у Глыбокім не памятаюць нават 90-гадовыя старажылы.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



ISSN 2077-8023



### Шаркоўшчынскі раён

## Вакансіі ёсць, няма спецыялістаў

■ Станіслаў Раманчук.

**У ліку 10 найбольш дэпрэсіўных, з найменшымі заробкамі рэгіёнаў краіны пераважаюць, на жаль, прадстаўнікі Віцебскай вобласці.**

Сярод іх ужо другі год сумнае званне найбольш беднага займае маланаселены Шаркаўшчынскі раён, у якім пражывае зараз крыху больш 15 тысяч чалавек. Але ў Прыдзвінні менавіта тут зафіксаваны самы высокі афіцыйна зарэгістраваны (1,5 %) узровень беспрацоўя ад эканамічна актыўнага насельніцтва. Гэта адчувальна вышэй, чым у сярэднім у Беларусі. Аднак здзіўляцца гэтаму няма чаго, бо ў раёне практычна няма прамысловасці, а адзінае прадпрыемства кансервава-гародніна сушыльны завод яшчэ 5 гадоў назад далучылі да Полацкай універсальнай гандлёвай базы. У крызісе будаўнічая галіна, летась узвялі толькі 600 кв. метраў жылля, а ў штаце мясцовай ПМК-68 не хапае галоўнага інжынера і двух спецыялістаў. Яшчэ больш свабодных вакансій у сельскай гаспадарцы, у адным сельгаспрадпрыемстве "Васюкі" патрабаваліся 6 спецыялістаў. У раёне, у адрозненне ад іншых рэгіёнаў, гатовы узяць іх на працу з прадастаўленнем жылля. Аднак работа на вёсцы стала малапрэстыжнай, нервовай і дрэнна аплочваемай: у гэтай мясцовасці людзі "бруднымі" зарабляюць крыху больш 200 долараў. Хоць тут раней узвялі 13 аграгарадкоў, засталося дзеючых 9 гаспадарак, а перспектывы даволі змрочныя. Толькі летась пагалоўе грамадскага статку зменшылася яшчэ на 401 галаву, а чатыры калгасы ў пачатку года знізілі вытворчасць жывёлагадоўчай прадукцыі. Вяскоўцам жывецца нявесела і свабоднай была вакансія для акампаніятара для Більдзюгскага СДК з аплатай, праўда, толькі 0,25 стаўкі.

### Полацкі раён

## Нікому даверу няма

■ Кастусь Александровіч

**У нашы дні ўсё часцей з розных куткоў вобласці прыходзяць паведамленні аб самых неверагодных крадзяжах.**

Вось і ў Полацку ў міліцыю звярнулася пажылая жанчына і паскардзілася, што нехта яе абакраў. Крыху пазней пенсіянерка ўспомніла, што яна рабіла ў той дзень і не магла паверыць, што на такі агідны ўчынак рашыўся "ветлівы" малады чалавек. Мясцовы школьнік, сапраўды, убачыў, што бабуля нясе дамоў цяжкія сумкі з прадуктамі і выказаўся дапамагчы іх паднесці да парога кватэры на 4-м паверсе. Аднак за той час, пакуль яны ўздымаліся наверх, юны злодзей паспеў выцягнуць з кашалька жанчыны 50 новых рублёў. Дома пацярпелая не магла стрымаць слёз ад нанесенай крыўды. Па гэтым факце была ўзбуджана крымінальная справа, а следчыя праз некалькі дзён выйшлі на след мярзотніка. Ім аказаўся вучань адной са школ райцэнтра. Зразумела, калі ён апынуўся ў міліцыі, прыйшлося прызнацца ў гэтым агідным учынку. Пацярпелай былі вернуты грошы. Аднак ад далейшых буйных непрыемнасцей пачынаючы зламыснік яшчэ болей не застрахаваны, бо яго ўзялі на прафілактычны ўлік у камісіі па справах непаўналетніх, за паводзінамі зусім не піянера-цімураўца стануць больш пільна сачыць. Яшчэ больш сур'ёзнае пакаранне чакае рабаўніка, які нядаўна скраў з аддзялення Беларусбанка ў пасёлку Фарынава амаль 10,5 тысяч рублёў і ўцёк. Але злачынца дзейнічаў непрафесійна: пакінуў адбіткі пальцаў сваіх рук і слядоў абутку. Былі знойдзены маска, якая прыкрывала яго твар, кінутая інкасатарская сумка і іншыя рэчы-доказы віны падазронага злачынцы.

### Пастаўскі раён

## З'явіцца новы сімвал

■ Чэслаў Якубовіч.

**Яшчэ да вайны пры Польшчы, а потым за савецкім часам Паставы былі буйным ваенным гарнізонам лётчыкаў і ракетчыкаў.**

У раённым цэнтры і зараз дыслацыруюцца радыётэхнічны цэнтр войскаў СПА, цэнтральны пагранічны шпіталь і яшчэ шэраг структур Дзяржаўнага пагранічнага камітэта Беларусі. Калі тут рыхтаваліся правесці ў 2006 годзе Дзень беларускага пісьменства, то ў горада з'явіўся і свой крылаты сімвал. На ўездзе ў Паставы па пастаменце быў устаноўлены ваенны самалёт-знішчальнік Міг-23 у памяць аб тым, што амаль паўстагоддзя размяшчаліся на ваенным аэрадроме два авіяцыйныя палкі. У іх служылі і сотні пастаўчан, паўстаў цэлы буйны жылы мікраён авіятараў у ваколіцах возера Задзеўскага са сваёй інфаструктурай і новай школай. Вось толькі ў неба адсюль днём і ноччу ўздымаліся іншыя крылатыя машыны, чым якая ўпрыгожвала ўезд у горад. Група воінаў-авіятараў запасу звярнулася ў Міністэрства абароны Беларусі з просьбай аднавіць гістарычную справядлівасць і перадаць пастаўчанам іх былы родны самалёт. Просьбу ветэранаў задаволі, а старэнькаму Мігу знайшлі мясцовыя ўлады новае месца дыслакацыі. Гэты знішчальнік быў дастаўлены на бераг ракі Мядзелкі і размясціўся ў скверы на Алеі воінаў-інтэрнацыяналістаў. На яго месца неўзабаве прыбудзе не менш грозны самалёт-бамбардзіроўшчык СУ-24, праўда, ён у даўжыню на 8 метраў большы папярэдніка, для чаго спатрэбіцца настолькі павялічыць пастамент для прыёму крылатага госця.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 20.04.17 | | | | Пятніца 21.04.17 | | | | Субота 22.04.17 | | | | Нядзеля 23.04.17 | | | | Пн.24.04. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -2 | +1 | +4 | +1 | -2 | +2 | +6 | +4 | +3 | +4 | +6 | +4 | +1 | +2 | +6 | +2 | -2 | +1 | +7 |
| Ціск | 759 | 760 | 758 | 757 | 754 | 750 | 745 | 741 | 738 | 735 | 734 | 736 | 737 | 738 | 739 | 741 | 742 | 745 | 747 |
| Вецер м/сек | 3 У | 1 Пн | 2 Пн | 1 Пн-У | 3 Пд | 8 Пд-З | 9 Пд-З | 7 Пд-З | 5 Пд-З | 9 З | 8 З | 4 З | 4 З | 7 З | 7 З | 1 Пн | 1 Пн-З | 3 Пн-З | 2 Пн-З |
| Вільготнасць | 80 | 72 | 46 | 69 | 75 | 60 | 60 | 89 | 90 | 80 | 67 | 73 | 84 | 81 | 63 | 76 | 90 | 63 | 40 |

# Аб самым надзённым

## ДАБІЦЦА РОЎНАДАХОДНЫХ ЦЭН НА ГАЗ БЕЛАРУСІ НЕ ЎДАЛОСЯ, НАША ЭКАНАМІЧНАЯ ЗАЛЕЖНАСЦЬ АД РАСІІ ЯШЧЭ БОЛЕЙ УЗРАСЛА

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Загвоздка ж у тым, што і наша ўсходняя суседка сама моцна залежыць ад цэнавай кан'юнктуры на энерганосьбіты і калі яна пагоршылася, то абвастрылісяі расійска-беларускія супярэчнасці ў гэтай сферы. Відавочна, што Крэмль пайшоў на пэўныя саступкі нам, але невядома, што ўзамен за гэта ён запатрабаваў ад беларускага кіраўніцтва.**

У пачатку красавіка споўнілася роўна 20 гадоў існавання так званай Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі. Аднак менавіта апошнім часам у "брацкіх рэспублік" ва ўзаемных адносінах накапілася вельмі шмат супярэчнасцей. Адзін з расійскіх ключавых міністраў сельскай гаспадаркі А. Ткачоў абазваў нашу краіну "перавалачнай базай" для санкцыйнай прадукцыі. У беларускім урадзе са свайго боку адмовіліся прызнаваць існуючы доўг за расійскі газ. На такім вось фоне паблізу Санкт-Пецярбурга прайшла днямі чарговая рабочая сустрэча прэзідэнтаў абедзвюх краін, якая працягвалася ў фармаце "адзін на адзін", а потым – у пашыраным складзе каля 6 гадзін.

Перад яе пачаткам, як вядома, у метро паўночнай расійскай сталіцы адбыўся тэракт, які эксперты назвалі персанальным выклікам кіраўніку РФ. Цяжка сказаць, ці паўплывала гэта страшная трагедыя на вынікі перамоў, але менавіта расійскі лідар, што важна, пацвердзіў аб урэгуляванні ўсіх існаваўшых спрэчных пытанняў у нафтагазавай сферы. У. Пуцін заявіў, што " мы нашли схему … сближаем наши позиции по ценам, нашли возможность взаимных уступок". Як было заяўлена ім: на працягу наступных 10 дзён Масква з Мінскам урэгулююць усе спрэчныя праблемы па пастаўках газу і нафты.

Загвоздка ж у тым, што і наша ўсходняя суседка сама моцна залежыць ад цэнавай кан'юнктуры на энерганосьбіты і калі яна пагоршылася, то абвастрыліся і расійска-беларускія супярэчнасці ў гэтай сферы. На той момант расійскі бок налічыў, што наш доўг за расійскі газ дасягнуў 726 млн. долараў. Аднак расіяне паабяцалі, што ў бліжэйшы час могуць аднавіцца раней дамоўленыя пастаўкі нафты аб'ёмам 24 млн. тон на год, пра гэта абмовіўся віцэ-прэм'ер урада РФ А. Дварковіч. Відавочна, што Крэмль пайшоў на пэўныя саступкі нам, але невядома, што ўзамен за гэта ён запатрабаваў ад беларускага кіраўніцтва.

Фактычна наша дэлегацыя прызнала наяўнасць доўгу за газ, а першы віцэ-прэм'ер В. Мацюшэўскі паведаміў аб прынятым рашэнні рэфінансаваць бягучыя даўгавыя абавязацельствы беларусаў на суму 750-800 млн. еўра. За гэту магчымасць А. Лукашэнка падзякаваў свайму маскоўскаму калегу. Праўда, заставалася невядомым, па якой цане будуць аплачваць расійскі газ беларусы далей у гэтым годзе. А вось у 2018-2019 гадах "Газпрам" нібыта прымяніць да Беларусі паніжаючы каэфіцыент да існуючай формулы цаны на гэта паліва. Нам прыйдзецца за ўсё заплаціць, забыцца на працяглы перыяд аб роўнадаходных цэнах на газ, пра што мы марылі. Правілы адзінага рынку газу пачнуць дзейнічаць толькі з 2025 года.

На сустрэчы пад Санкт-Пецярбургам узнімаўся яшчэ адзін даволі балючы для Беларусі праблемны вузел з пастаўкамі айчыннага харчавання. Суседзі папракаюць нас, што пад выглядам беларускай прадукцыі ім пастаўляюць польскія яблыкі і грыбы, садавіну і гародніну з Галанды, Бельгіі, Францыі і іншых краін ЕС. У сваю чаргу, як вядома, Рассельгаснагляд дабраўся ўжо да беларускіх сыроў, забараніў увоз айчынных мяса, малочных і рыбных прадуктаў з шэрагу нашых прадпрыемстваў і птушкафабрык. На гэты раз "родные братья" дамовіліся, што расійскія спецыялісты прыедуць у Беларусь і на месцах урэгулююць са сваімі калегамі спрэчныя моманты па захаванні расійскіх фітасанітарных норм. Але кіраўнік гэтага карнага ведамства С. Данкверт так і не асмеліўся прыехаць у нашу краіну з-за ўзбуджанай супраць яго крымінальнай справы.

Вось толькі з гэтай нагоды чамусьці асаблівай радасці няма, бо не хто іншы, як беларускі лідар на прайшоўшай рабочай сустрэчы прама заявіў, што праблемы ў адносінах з Расіяй будуць заўсёды. А даволі дасведчаная "Газета. Ru", каментуючы вынікі перамоў, заўважыла: "раздор по поводу цен и долгов за газ между братскими странами ликвидирован. Ненадолго. А главное, роста цен на газ для потребителей не избежать." Такім чынам суседзі папярэджваюць нас, што на расійскіх прасторах прадоўжыцца лібералізацыя ўнутраных цэн на газ, да чаго трэба рыхтавацца і Беларусі, і расійскім спажыўцам.

Большасць жа дасведчаных экспертаў і эканамістаў лічаць, што адносіны паміж Расіяй і Беларуссю далёкія ад ідэальных, іх сур'ёзна падпорцілі апошні нафтагазавы канфлікт, а таксама існуючыя рознагалоссі па пытаннях Крыма, адносін з Украінай, наконт санкцыйных прадуктаў і іншыя. Па-ранейшаму на граніцах абедзвюх дзяржаў, як і раней, затрымліваюць грузы, на беларускай граніцы з боку РФ дзейнічае прыгранічная зона. Не прызнаюцца выдадзеныя ў рамках Мытнага саюза дэкларацыі і сертыфікаты на тавары. А галоўнае, што ўжо пасля прайшоўшай ля Піцера сустрэчы расійскі бок папярэдзіў, што пастаўкі нафты ў ранейшых аб'ёмах адновяцца тады, калі беларусы пагасяць вялікі доўг за спажыты газ.

## Дзень за днём

**Нарэшце вырашыўся нафтагазавы канфлікт з Расіяй, але пастаўкі расійскай нафты ў Беларусь дагэтуль скарачаліся на 30 %. Экспарт айчынных нафтапрадуктаў у студзені знізіўся на 53,2 %. Нацбанк 4-ты раз сёлета знізіў стаўку рэфінансавання да 14 % гадавых. У Беларусі створаць сістэму маніторынгу грамадскай бяспекі. У паляпшэнні жыллёвых умоў маюць патрэбу 694 тысячы грамадзян (сем'яў). З пачатку года сярэднія заробкі беларусаў знізіліся да 720 рублёў (360 еўра). Міністэрства культуры ўключыла Саюз беларускіх пісьменнікаў у спіс творчых арганізацый. У красавіку зноў падаражэлі цыгарэты, тарыфы МТС – на 9 %.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** У сваёй штаб-кватэры ў Вашынгтоне ФБР стварыла спецаддзел па расследванні спроб Расіі паўплываць на вынікі прэзідэнцкіх выбараў, будучь “разборкі” і з КНДР.

**Сірыя.** У выніку авіяўдару пад раніцу па горадзе Хан-Шэйхун ад атраўлення газам загінула звыш 70 чалавек, краіны Захаду ўсклалі адказнасць за злачынствы на рэжым Б. Асада.

**Эквадор.** У краіне пачаліся хваляванні і акцыі пратэсту пасля перамогі на прэзідэнцкіх выбарах сацыяліста, экс-прэзідэнта Леніна Марэна, ён паабяцаў знішчыць тут карупцыю.

**Польшча.** Генпракуратура краіны абвінавачвае расійскіх авіядыспетчараў у наўмысным правакаванні катастрофы прэзідэнцкага Ту-154 пад Смаленскам, Крэмль гэта абверг.

**Бельгія.** ЕС выказаў занепакоенасць дзеяннямі беларускіх сілавых структур у сакавіку, сваё расчараванне выказалі таксама лідары Польшчы, АБСЕ, Еўрапарламента.

**Германія.** Глава МЗС З. Габрыэль запатрабаваў неадкладна вызваліць усіх несправядліва арыштаваных у Беларусі, улады павінны паважаць іх права на мірныя дэманстрацыі.

**Літва.** Глава МЗС Л. Лінкявічус папярэдзіў, што калі ў Беларусі зноў з'явяцца палітычныя зняволеныя, то, без усялякага сумнення, ЕС вернецца да пытання санкцый.

**Францыя.** Рускія людзі, як заявіў прафесар М. Ламбер, узняліся на пратэсты з-за растучай несправядлівасці ў краіне з карумпаванай элітай і алігархамі і росту жыццёвых праблем.

**Расія.** Палітолаг Г. Паўлоўскі заявіў, што акцыі супраць карупцыі паказалі: краіна выглядае зусім не так, як здавалася ў Крамлі апошнім часам, людзям абрыдла абкраданне.

**Украіна.** Глава парламента А. Парубій папярэдзіў, вучэнні “Захад-2017” могуць абярнуцца прамой агрэсіяй альбо дыверсійна-падрыўной дзейнасцю РФ супраць краіны.

**Калумбія.** Пасля праліўных лівяў і сходу селевых патокаў у горадзе Мокоа загінула больш 250 чалавек, у суседнім Перу стыхія забрала жыцці больш 100 грамадзян.

**Германія.** Хоць немцы сталі менш піць піва, за год прыбавілася яшчэ 16 бровараў, а колькасць піўзаводаў вырасла да 1408, болей піва вырабляюць Кітай, ЗША і Бразілія.

**Аўстралія.** На гарады і пасёлкі штата Квінслейд абрушыўся трапічны цыклон “Дэбі” неверагоднай сілы ветру 263 км у гадзіну, людзі засталіся без святла, шмат разбурэнняў.

**Інданезія.** На востраве Сулавесі ў пальмавым гаі гіганцкая сямімятровая змяя-пітон праглынула поўнасцю 25-гадовага хлопца на дарозе ў суседнюю вёску.

**Грэцыя.** Глава Еўрапейскага шахматнага саюза З. Азмайпарышвілі пацвердзіў афіцыйную інфармацыю ФІДЭ аб адстаўцы свайго старшыні калмыка К. Ілюмжынава..

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пры адмове ад рэформ, як папярэдзіў эксперт Ю. Царык, вяртанні да эмісійнага росту па рэцэптах Пракаповіча нас чакае катастрофа, значна горшая, чым у 2011 годзе.

**Асіповічы.** Абласны Эканамічны суд Магілёўшчыны прызнаў банкрутам вагонабудаўнічы завод з даўгамі 241 млн. рублёў, прадпрыемства ліквідуюць да 20 сакавіка 2018 года.

**Дзяржынск.** Мінскі абласны суд пакараў 20 гадамі калоніі строгага рэжыму былога главу раёна, 67-гадовага У. Ткачова за жорсткае забойства ў Фаніпалі былой жонкі.

**Мінск.** Палітолаг К. Скуратовіч заявіў, што задача да 1 мая працаўладкаваць усіх беспрацоўных – манілаўшчына, грамадскія работы не маюць значэння для эканомікі.

**Брэст.** Вядомы паэт і палітык У. Някляеў абскардзіў у Генпракуратуру Беларусі сваё гвалтоўнае затрыманне ноччу без афармлення дакументаў і ўказання прычын арышту.

**Магілёў.** За атрыманне хабару ў суме 759 тысяч USD суд пакараў былога дырэктара мясцовага вагонабудаўнічага завода 11 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці.

**Мінск.** Пратэсты тых, каму няма чаго есці, разагналі, як папярэдзіў пісьменнік Віктар Марціновіч, але гэта не канец, а толькі пачатак, бо праблемы не вырашаны, няма грошай.

**Слабада.** Расійская газета “Известия” пацвердзіла, што з-за забароны паставак мяса ў РФ кампанія “Рыгор і сыны” і яшчэ шэраг фірм Міншчыны апынуліся на мяжы банкруцтва.

**Мінск.** Раніцай адразу ў двух офісах тэлеканала “Белсат” прайшлі ператрусы, БАЖ зафіксаваў у сакавіку 121 выпадак парушэння правоў супрацоўнікаў недзяржаўных СМІ.

**Магілёў.** Адна з буйнейшых і раней перадавых у вобласці фірм АПК “Вейна” па вырошчванні садавіны і гародніны падала ў Эканамічны суд заяву аб банкруцтве.

**Мінск.** Два гады нам абяцалі, як заявіў эканаміст Я. Раманчук, што вось-вось пачнецца рост эканомікі, праваленых ўсе паказчыкі, за глыбокую рэцэсію нікога не звольнілі з рулявых.

**Гродна.** Да 7 гадоў турмы пагражае 37-гадоваму мужчыне, які не меўшы ліцэнзіі, правёў лячэбны масаж, пасля чаго дрэнна сябе адчула і памерла 88-гадовая пенсіянерка.

**Мінск.** Злавесны парад “рабакопаў” са спецстрэльбамі, вадамётамі, браневікамі, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, “удаўся”, але яны бездапаможныя перад праблемамі эканомікі.

**Астравец.** Вечарам корпус рэактара вагой звыш 330 тон першага энергаблока Беларускай АЭС нарэшце ўстанавілі ў шахце станцыі, яе запусцяць у эксплуатацыю ў 2019 годзе.

**Мінск.** Вядомы футбаліст В. Глеб заявіў, што “дармаедскі дэкрэт” не павінен існаваць, асудзіў вяртанне краіны да савецкай сімволікі – герба і сцяга, заняпад беларускай мовы.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Руба.** На ўзведзенай Віцебскай ГЭС пачаліся выпрабаванні трох з 4-х гідраагрэгатаў, на станцыі будуецца і судаходны шлюз, увод ГЭС у эксплуатацыю намечаны на ліпень.

**Бешанковічы.** Раніцай на скрыжаванні дарог кіроўца школьнага аўтобуса ПАЗ Ржаўскай СШ не саступіў дарогу маршрутцы Віцебск-Чашнікі, 9 яе пасажыраў даставілі ў бальніцу.

**Наваполацк.** Больш тысячы чалавек пабывалі на ярмарцы вакансій у гарадскім цэнтры культуры, у нафтаградзе на ўліку ў цэнтры занятасці стаяць 599 беспрацоўных.

**Браслаў.** Сход упаўнаважаных сельгаскааператыва “Маяк Браслаўскі” аднагалосна адмовіўся ад рэарганізацыі ў ААТ і ад будаўніцтва новага буйнога малочнага комплексу.

**Глыбокае.** З удзелам гендырэктара РУП “Фармацыя” А. Арловай у райцэнтры ў адным з пуставаўшых памяшканняў былога кансервавага завода адкрылі новую аптэку.

**Талачын.** З-за падпалу леташняй сухой травы ў вёсцы Гарбачова ўзнік днём пажар і згарэлі неўзабаве тры, на шчасце, нежылыя дамы, падпальшчыка пачалі шукаць.

**Віцебск.** Ноччу ў раёне прыватных забудоў з-за неасцярожнасці пры курэнні загарэўся драўляны дом, пажар забраў жыцці 30-гадовага хлопца і яго суседа-пенсіянера.

**Докшыцы.** Адным з трох пераможцаў абласнога этапа рэспубліканскага конкурсу “Настаўнік года – 2017” стала выхавацель яслі-сада № 3 з райцэнтра Людміла Лукашэвіч.

**Полацк.** З-за вельмі моцнага ветру ў гарпасёлку Ветрына часткова абрушылася дзеючая цагляная воданапорная вежа, адразу пачала працаваць спецтэхніка на месцы здарэння.

**Гарадок.** Нават смяротнае пакаранне пагражае 34-гадоваму жыхару райцэнтра, які летась восенню, як выявіла следства, забіў віцебскага бізнесмена, а труп схаваў у канаве.

**Мёры.** З магілак у вёсцы Грыгаровічы скралі 9 металічных слупоў з ланцугамі, міліцыя знайшла злодзея, 16-гадовага падлетка, узбуджана крымінальная справа.

**Віцебск.** Загадчыцай кафедры замежных моў дзяржуніверсітэта прызначылі абаронцу “русского мира” з Луганска, экс-намесніцу міністра адукацыі ўкраінафобку І. Зайцаву.

**Браслаў.** У вялікі вальер Нацпарку “Браслаўскія азёры” з Белавежскай пушчы перадалі бязвыплатна пару маладых зуброў, ад іх можна будзе чакаць прыплоду праз два гады.

**Паставы.** Крылаты сімвал горада на ўездзе ў райцэнтр – самалёт Міг-23 перабраўся на Алею воінаў-інтэрнацыяналістаў, на яго месцы з'явіцца СУ-24, на якім лёталі лётчыкі.

*Служба інфармацыі “ВГ” (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Ці спадабалася вам велікоднае надвор'е ў гэтым годзе?

**Сёлета на Вялікдзень пайшоў снег. І хаця такое здаралася і раней, у гэтым годзе гэта выглядала анамальна, бо Пасху і праваслаўныя, і каталікі святкавалі 16 красавіка, і для сярэдзіны красавіка такое надвор'е не характарнае. Мы спыталі ў глыбачан і гасцей горада, што яны думаюць на гэты конт.**

**Зміцер Лупач, Леанід Юрык**



**Эдвард Рудак:**

– Нармальнае надвор'е. Вядома, хацелася б, каб было цяплей, але пайшоў снег. Даўней людзі казалі, што калі снег на Вялікдзень, то ўраджай будзе добры. Асабліва авёс добры рос, калі пасеяць пад снег. Таму трэба дзякаваць Богу і за гэты снег.



**Алена Пажога:**

– Тут хочацца адказаць вядомымі словамі: «У природы нет плохой погоды». Што Бог даў, тое і добра. Цікава вельмі, што такое надвор'е. Я вось капусту ўжо пасеяла на расаду, але, думаю, нічога з ёй не станецца. Тут ужо нічога не зробіш, ёсць як ёсць.



**Сяргей Петрушэўскі:**

– Не вельмі падабаецца. Такое надвор'е на Каляды павінна быць, а не на Вялікдзень. Хацелася на шашлыкі з'ездзіць, адпачыць на прыродзе, а надвор'е не дазволіла. Хаця тут мы паправіць не ў сілах. Але асабіста мне надвор'е на свята не спадабалася.



**Кацярына Лупач:**

– Не вельмі, хоць я і люблю снег. Бо калі мы паехалі да бабулі ў вёску, то мне хацелася больш пахадзіць па вёсцы, зайсці ў госці да знаёмых, павіншаваць адзін аднаго, абмяняцца яйкамі. Але ішоў мокры снег і хадзіць у гэты час па вуліцы было не вельмі прыемна.



**Якуб Хадрысь:**

– Я ўжо прывык да такога надвор'я. На маёй памяці гэта ўжо чацвёрты Вялікдзень, калі ідзе снег. У нас у Польшчы тады лепяць снегавікоў, а мы з сябрам зараз зрабілі снежнага зайца. Хацелася, вядома, каб было цяплей, але і такое надвор'е прыемнае. Павінна быць нейкая разнастайнасць і ў прыродзе.



**Кс.Мікалай Ціхановіч:**

– Не вельмі падабаецца, бо як такое надвор'е можа быць на Вялікдзень? Павінна быць інакш звычайна. На маёй памяці гэта першы Вялікдзень, калі ішоў снег на самое свята. Па-рознаму здаралася было, што снег ляжаў яшчэ, не паспеўшы растаць. Таму лічу, што надвор'е не адпаведнае. Але для мяне надвор'е – не перашкода для святкавання рэлігійных святаў, бо гэта не галоўнае.

# У Глыбокае прыедуць ажно два шатландцы

**Уладзімір Скрабатун**

Стала вядомая канчатковая праграма і назва дударскага фэсту ў Глыбокім — **Першы фэст дударскіх рэгіёнаў «Дударскі рэй - 2017».** Будуць ажно два шатландцы, адзін мае ў сваёй калекцыі беларускую дуду і ўмее на ёй граць.

На фэст, які мае адбыцца 6-7 траўня, мяркуецца прыезд дудароў з Вялікапольшчы (Польшча), Маравіі (Чэхія), Фландрыі, Валоніі (Бельгія), Шатландыі (Брытанія).

Уже рыхтуецца цікавая сувенірная прадукцыя ад Дома рамёстваў, напрыклад магніты з дыванамі, у стылі Язэпа Драздовіча, намаляваныя Святланай Скаваркай.

Нагадаем, ініцыятарам правядзення міжнароднага дударскага фэсту ў Глыбокім з'яўляецца Віталь Воранаў, пісьменнік, перакладчык, выкладчык ірландскай літаратуры ва ўніверсітэце г. Брна (Чэхія), жыхар Познані, колішні вучань Глыбоцкай СШ №2, які летнія месяцы пражывае ў дзедавай хаце ў вёсцы Удзела пад Глыбокім і займаецца адраджэннем дударскіх традыцый на Глыбоччыне.




# ДУДАРСКІ РЭЙ – 2017

## ПЕРШЫ ФЭСТ ДУДАРСКІХ РЭГІЁНАЎ НА ГЛЫБОЧЧЫНЕ



**З УДЗЕЛАМ ДУДАРОЎ З** ● ВЯЛІКАПОЛЬШЧЫ (Польшча), ● МАРАВІІ (Чэхія), ● ФЛАНДРЫІ, ВАЛОНІІ (Бельгія), ● ШАТЛАНДЫІ (Злучанае Каралеўства).

**6 траўня (субота).**

11:30 Адкрыццё фэсту на Алеі славутых землякоў. Глыбокае.

12:30 Адкрыццё выставы "Дуда ў літаратуры". Цэнтральная раённая бібліятэка, зав. Энгельса, 41 -а, Глыбокае.

14:00 Адкрыццё выставы "Вялікапольская дуда ў XXI стагоддзі". Глыбоцкі гісторыка-этнаграфічны музей, вул. Энгельса, 24, Глыбокае.

17:30 Ускладанне кветак да магілы Ігната Буйніцкага. Празарокі.

20:00 Выступ у Санаторна-курортным комплексе "Пліса".

**7 траўня (нядзеля).**

9:30 Шпацыр з дударамі па культурна-дэндралагічным комплексе ў вёсцы Мосар.

11:30 Урачыстая служба з удзелам дудароў. Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў вёсцы Удзела.

13:00 Урачысты паход дудароў ад Школы мастацтваў да Цэнтральнай плошчы. Глыбокае.

13:30 Гала-канцэрт замежных і беларускіх дудароў на Цэнтральнай плошчы. Глыбокае.

# Акцыя «Чысты вадаём» пройдзе ў Беларусі з 19 па 28 красавіка

**Рэспубліканская акцыя «Чысты вадаём» пройдзе ў Беларусі з 19 па 28 красавіка, паведамілі БЕЛТА ў РДГА «Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў».**

Акцыя праводзіцца БТПР з 2014 года. За гэты час у акцыі прынялі ўдзел амаль 20 тыс. чалавек, сабрана звыш 3 тыс. куб.м смецця і вывезена на палігоны. Супрацоўнікі Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў разам з прадстаўнікамі іншых арганізацый, насельніцтвам прывялі ў парадак больш за 2 тыс. км берагавой лініі вадаёмаў і вадацёкаў краіны.

Акцыя павінна прыцягнуць увагу да праблемы забруджвання вадаёмаў і дапамагчы прывесці ў парадак прыбярэжную зону вадаёмаў і вадацёкаў напярэдадні адкрыцця сезона масавага актыўнага адпачынку на прыродзе.

Азнаёміцца з інфармацыяй аб месцах правядзення акцыі можна на афіцыйным сайце БТПР. У графік магчыма ўнясенне змяненняў. Канкрэтныя час і месца правядзення акцыі неабходна ўдакладняць у арганізацыйных структурах таварыства і па тэлефонах, пазначаных у графіку правядзення акцыі. Да мерапрыемства могуць далучыцца ўсе ахвотныя.

*БелТА.*

# У Беларусі стартавала рэспубліканская прафілактычная акцыя "Дом без насілля"

**У Беларусі стартавала рэспубліканская прафілактычная акцыя "Дом без насілля". Аб гэтым паведаміў на прэс-канферэнцыі намеснік начальніка ўпраўлення прафілактыкі ГУАПП МГБ Міністэрства ўнутраных спраў Сяргей Красуцкі, перадае карэспандэнт БелТА.**



Паводле слоў прадстаўніка МУС, праблема насілля ў сям'і не страчвае сваёй актуальнасці, хоць апошнія гады намецілася тэндэнцыя па зніжэнні колькасці бытавых злачынстваў. Разам з тым кожнае чацвёртае забойства і цяжкае цялеснае пашкоджанне ўчыняюцца ў сям'і, адзначыў Сяргей Красуцкі.

Рэспубліканская прафілактычная акцыя "Дом без насілля" праводзіцца 17-28 красавіка Міністэрствам унутраных спраў сумесна з зацікаўленымі дзяржаўнымі ведамствамі і грамадскімі аб'яднаннямі. Акцыя стала традыцыйнай, праходзіць штогод ва ўзаемадзеянні з іншымі ведамствамі і грамадскімі арганізацыямі.

Запланаваны сустрэчы ў працоўных калектывах, круглыя сталы, тэматычныя выступленні спецыялістаў у СМІ, паказ сацыяльных ролікаў у тэлээфіры і інтэрнэце. Супрацоўнікі праваахоўных органаў, прадстаўнікі міністэрстваў працы і сацыяльнай абароны, адукацыі, аховы здароўя, розных грамадскіх арганізацый праінфармуюць аб дзеючых прававых нормах, аб дапамозе, якую могуць атрымаць ахвяры сямейнага насілля. Міжведамасныя рабочыя групы наведаюць дамы сямейных агрэсараў, правядуць з імі прафілактычныя гутаркі, запросяць на прафілактычныя мерапрыемствы.

*БелТА.*

# Колькасць вяселляў скарацілася на 21% – найбольшае падзенне ад пачатку стагоддзя

**Пра гэта сведчаць дадзеныя Белстата.**

У 2016 годзе ў ЗАГСах краіны былі зафіксаваныя 64536 шлюбаў, тады як пазалетась — 82030. Такім чынам, колькасць вяселляў скарацілася на 21,3%. Гэта найбольшае падзенне як мінімум ад пачатку стагоддзя (ранейшых звестак на сайце Белстата няма).

Дарэчы, найбольшае скарачэнне колькасці шлюбаў летась было зафіксаванае на Гомельшчыне — ажно на 28%.

Прыгэтым колькасць разводаў у цэлым у Беларусі зменшылася на ўзровень статыстычнай памылкі — каля 1%.

*пп.by*

# Апублікаваны графік правядзення ЦТ у 2017 годзе

**Усталяваны графік правядзення цэнтралізаванага тэставання па навучальных прадметах у 2017 годзе. Такая інфармацыя змешчавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.**

Цэнтралізаванае тэставанне пройдзе ў наступныя дні:

- беларуская мова – 12 чэрвеня, панядзелак;
- руская мова – 14 чэрвеня, серада;
- грамадазнаўства – 16 чэрвеня, пятніца;
- матэматыка – 18 чэрвеня, нядзеля;
- біялогія – 20 чэрвеня, аўторак;
- замежная мова (англійская, нямецкая, французская, іспанская, кітайская) – 22 чэрвеня, чацвер;
- хімія – 24 чэрвеня, субота;
- фізіка – 26 чэрвеня, панядзелак;
- гісторыя Беларусі – 28 чэрвеня, серада;
- геаграфія – 30 чэрвеня, пятніца;
- сусветная гісторыя (найновы час) – 2 ліпеня, нядзеля.



Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў Міністэрстве адукацыі, рэгістрацыя на асноўны этап ЦТ будзе праходзіць з 2 траўня па 1 чэрвеня. Час працы пунктаў рэгістрацыі – з 9.00 да 19.00, у суботнія дні (13 і 27 траўня) – з 9.00 да 18.00. Зарэгістравацца для праходжання ЦТ у рэзервовыя дні можна з 30 чэрвеня па 3 ліпеня. Час пачатку ЦТ, у тым ліку ў рэзервовыя дні, – 11.00. Атрымаць сертыфікаты абітурыенты змогуць у пунктах правядзення ЦТ з 10 ліпеня, у БДУ (рэзервовыя дні) – з 13 ліпеня. Графік усталяваны пастановай Міністэрства адукацыі ад 31 сакавіка 2017 года №29а. У пастанове ўтрымоўваецца пералік устаноў адукацыі, вызначаных пунктамі рэгістрацыі для праходжання ЦТ, у тым ліку ў рэзервовыя дні, а таксама пунктамі правядзення ЦТ. У рэзервовыя дні ЦТ будзе праводзіцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.

*БелТА*

■ Аляксей Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

# Заміж улову рыбы браканьеры самі сталі ўловам інспекцыі!

Беларусь не абдзелена водными рэсурсамі, асабліва Віцебская вобласць, не выключэнне Глыбоцкі і Пастаўскі раёны, на тэрыторыі якіх размешчана больш за 200 азёр і вадаёмаў, шмат якія з іх знаходзяцца ў надзвычай прыгожых месцах. З кожным годам усё больш аматараў рыбалкі можна сустрэць на нашых вадаёмах, гэта сведчыць аб тым, што ў іх ёсць шмат рознай рыбы, а гэта нядрэнная падстава добра правесці час. Ахове вадаёмаў ад браканьераў супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету надаецца значная ўвага, з дапамогай добраахвотных памочнікаў, простых грамадзян міжраённай інспекцыяй перарываюцца спробы незаконнай здабычы рыбы і іншыя парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства. Толькі за сакавік-красавік інспектарамі затрымана больш за 20 парушальнікаў.

Так, 11 красавіка 2017 года каля 24 гадзін на возеры Ксяндзы Пастаўскага раёна інспектарамі затрыманы двое мясцовых жыхароў, якія ўсталявалі 300 метраў браканьерскіх сетак, але замест улову рыбы, самі сталі здабычай інспектараў. Складзены адміністрацыйныя пратаколы накіраваны ў раённы суд.

14 красавіка каля 14 гадзін на рацэ Заражанка Пастаўскага раёна інспектары затрымалі жыхара Пастаўскага раёна, які ажыццяўляў здабычу рыбы сеткамі. Затрыманы парушальнік здабыў 4 асобіны ліна і 2 асобіны плоткі, улічваючы вясновы нераставы перыяд, урон за незаконна здабытую рыбу павялічыўся ў 3 разы і склаў 1679 рублёў, а раённы суд яшчэ вынесе пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры ад 20 да 50 базавых велічынь.

Кажучы пра вадаёмы, не магчыма не закрануць тэму чысціні іх берагоў. Ажыццяўляючы лоўлю рыбы, шматлікія рыбаловы пакідаюць пасля сябе горы смецця, пустыя бутэлькі, слоікі, пачкі ад цыгарэт. Такіх людзей і рыбаловамі назваць нельга, звычайныя п'яніцы. Праводзячы кантрольныя мерапрыемствы паблізу населеных пунктаў, інспектары назіраюць вельмі непрыемную карціну: берагавая лінія азёр пасля розных пікнікоў, гуляў завалена побытавым смеццем. Часам грамадзяне хатняе смецце вывозяць прама на бераг возера, ракі, у лес, а не ў смеццевы кантэйнер, ператвараючы прыгожыя, дагледжаныя месцы, у чарговую звалку. Толькі пакараннем гэту праблему не вырашыць. Без разумення праблемы чысціні азёр, лясоў і дапамогі грамадзян мы не зможам захаваць унікальную прыгажосць нашых вадаёмаў.



Глыбоцкая міжрайінспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету чарговы раз тлумачыць рыбаловам-аматарам. **З 10 красавіка па 8 чэрвеня** на тэрыторыі Віцебскай вобласці дазволена ажыццяўляць лоўлю рыбы толькі на адну вуду з адным кручком або на адзін спінінг, з берага, без заходу ў ваду, са штучных збудаванняў (масткоў, муроў і г.д.). Ва ўказаны перыяд часу забаронена выкарыстанне плавальных сродкаў усіх відаў і тыпаў.

**На тэрыторыі Віцебскай вобласці забаронена лоўля шчупака з 9 сакавіка па 25 красавіка, сома – з 31 траўня па 1 ліпеня, лоўля судака забаронена з 15 красавіка па 30 траўня.**

Выязджаючы на прыроду на шашлыкі, не забудзьцеся ўзяць з сабою мяшок для смецця. Зрабіце добрую справу: прыбярыце хоць бы за сабой!

Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце звярнуцца да супрацоўнікаў міжрайінспекцыі.

Тэлефоны "гарачай лініі" Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету: 8 (02156) 5-59-80; 897-23-02; 890-55-28; 249-45-49; 645-66-78 мтс

■ Сяржук Серабро

# У Лепельскім раёне двое вяскоўцаў, якія налавілі ракаў больш пакладзенага, прысуджаны да пазбаўлення волі з адтэрміноўкай пакарання

**Двое жыхароў Чарэйшчыны, якія вылавілі яшчэ ў верасні 2016 года на возеры Шчыбот у Лепельскім раёне 293 ракаў агульнай вагой 13,4 кілаграма, асуджаны судом да аднаго і двух гадоў пазбаўлення волі.**

У Лепельскім раёне двое вяскоўцаў, якія налавілі ракаў больш дазволенага, прысуджаны да пазбаўлення волі з адтэрміноўкай пакарання.

34-гадовы і 36-гадовы браканьеры ўзялі на пракат лодку на лодачнай станцыі. Адзін з мужчын нырау ў гідракасцюме і лавіў ракаў рукамі. Налавіўшы па 2 кілаграмы ракаў на чалавека, яны не спыніліся і перавысілі дазволеную норму больш за тры разы.

На беразе, куды браканьеры даставілі сваю здабычу, побач доміка на лодачнай станцыі іх затрымалі супрацоўнікі Лепельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.

Суд Лепельскага раёна прысудзіў аднаго з мужчын, які раней быў асуджаны за крадзеж, да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай пакарання, а другога – да аднаго года таксама з адтэрміноўкай.

Акрамя таго кожны браканьер павінен выплаціць па 1150 рублёў штрафу, а таксама яны павінны пакрыць прычыненыя прыродзе ўрон ў памеры 9200 рублёў, паведамляе прэс-служба Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.

■ В.В.Кулакоўскі,
*старэйшы інспектар групы МВСО Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь, маёр міліцыі*

# Ці варта даручыць сваю бяспеку і бяспеку сваёй маёмасці Дэпартаменту аховы?

## За 3 месяцы 2017 года па Глыбоцкім раёне было зарэгістравана 27 крадзяжоў усіх відаў уласнасці.

Шматлікія грамадзяне не ведаюць, усталёўваць ці не ахоўна-пажарную сігналізацыю. З аднаго боку – дорага і, спадзяемся на дзедаўскае авось, бо ў нас жа – моцныя замкі і надзейныя дзверы. З іншага боку – ахоўныя прылады ўсталёўваюць ад спроб узлому ці крадзяжу. Давайце разбяромся, у якім выпадку выгада большая.

Вядома, абсталёўваць аб'ект ахоўна-пажарнай сігналізацыяй каштуе не танна, акрамя таго неабходна выдаткоўваць і на штомесячную аплату. Да таго ж, надакучае ілюмінацыя на панэлі. Мігценне святлодыёдаў стамляе. Няма магчымасці выключыць цуд-прыбор.

Аднак звернемся да статыстыкі. У структуры ўсіх злачынстваў крадзяжы займаюць найвялікую ўдзельную вагу.

Крадуць усё, што ўяўляе каштоўнасць. Так, за 1 квартал 2017 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна зарэгістравана 61 злачынства. Высокі адсотак гэтых крадзяжоў быў здзейснены шляхам вольнага доступу па прычыне таго, што ўласнікі маёмасці не прымаюць належных мер па абароне ад пранікнення старонніх асобаў на тэрыторыю аб'ектаў, у кватэры, дамы.

Супрацоўнікі раённага аддзела ўнутраных спраў надаюць вялікую ўвагу прафілактычнай працы з насельніцтвам па папярэджанні крадзяжоў. Аднак трэба адзначыць, іх просьбы чуюць не ўсе, што і прыводзіць да крадзяжоў маёмасці.

Што рабіць, каб ахаваць сябе ад злодзеяў? Звярнуцца да супрацоўнікаў аддзела Дэпартамента аховы!

На сённяшні дзень ахова ўласнасці актуальная як ніколі раней. Звязана гэта з ростам ліку правапарушэнняў. Адным з самых папулярных і запатрабаваных на сённяшні дзень спосабаў абароны з'яўляецца пультовая ахова аб'ектаў. Выкарыстанне сучасных распрацовак дазваляе падключаць на ПЦН любыя памяшканні. Гэтак жа для забеспячэння бяспекі шматлікія крамы, клубы, бары, рэстараны, банкі і іншыя месцы і ўстановы масавага грамадскага карыстання карыстаюцца "трывожнымі кнопкамі". Кнопка трывожнай сігналізацыі размяшчаецца ў любым месцы памяшкання, зручным для ўтойлівага націску. Маецца таксама магчымасць падключэння радыёкнопкі трывожнай сігналізацыі, радыус дзеяння якой – 50-100 метраў ад стацыянарна ўсталяванага прыбора. Вядзецца кругласутачнае назіранне за ўсімі аб'ектамі, што знаходзяцца пад аховай. "Трывожную кнопку" абавязаны размяшчаць у сябе толькі аб'екты, дзе захоўваюцца зброя і ювелірныя вырабы. Астатнія могуць усталёўваць яе па жаданні.


Трывожная кнопка

Разам з тым праваахоўнікі рэкамендуюць усё ж абзавесціся "трывожнымі кнопкамі", бо тады ў выпадку небяспекі нарад міліцыі прыбудзе на месца ў максімальна кароткія тэрміны.

Яшчэ адным з пераваг ахоўнай сігналізацыі з'яўляецца тое, што яна добра рэагуе на любое задымленне або ўзгаранне, з прычыны чаго адразу ж паступае сігнал трывогі і для высвятлення прычыны накіроўваецца найбліжэйшы нарады міліцыі. Гэта дапаможа выратаваць маёмасць ад поўнага знішчэння агнём пры ўзнікненні пажару ў ахоўваемым памяшканні.

Тым не менш, грамадзяне і кіраўнікі арганізацый неахвотна ідуць у падраздзяленні аховы складаць дамовы. Чакаюць, пакуль гром не грымне (адбудзецца крадзеж, разаб'юць вітрыну і т. п.).

Толькі за 3 месяцы 2017 года па Глыбоцкім раёне было зарэгістравана 27 крадзяжоў усіх відаў уласнасці. Так, напрыклад 02.04.2017 года ў зварачным пакоі, размешчанага ў гаражным боксе на вытворчай тэрыторыі Глыбоцкага філіяла АУП "Віцебскаблпаліва", размешчанага па адрасе: г. Глыбокае, вул. Маскоўская, в.129а выяўлена згуба двух электрычных кабеляў ад электрычнай зваркі. Аднак гэтага можна было пазбегнуць. Бо штогод супрацоўнікамі Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы праводзіцца маніторынг неахоўных аб'ектаў. Штомесяц накіроўваюцца лісты, праводзяцца сустрэчы з кіраўнікамі гэтых аб'ектаў. Спецыялісты падраздзялення прапануюць надзейны спосаб абароны маёмасці і, як следства, свайго спакою. Аднак гэта не прыносіць вынік – гаспадарнікі непрыступныя! У выніку – гром грукоча!

Упадвядзенне вынікаў, можна сказаць, што гэта толькі ваш выбар – забяспечыць бяспеку сваёй дзейнасці і захаваць сваю маёмасць ці рызыкнуць і пакінуць сваю ўласнасць без надзейнай абароны, але зэканоміць! Абы потым не прыйшлося заплаціць двойчы!

# Калі сеў на ровар!

■ Ю.В. Заяц,
*старэйшы дзяржаўтаінспектар АДАІ.*

**З прыходам вясны на дарогах раёна не становіцца спакайней. Павялічваецца колькасць аўтамашын, бо шмат якія грамадзяне ў зімовы перыяд транспарт не эксплуатавалі, адчулі прыход вясны і веласіпедысты, на што хацелася б звярнуць асаблівую ўвагу.**

Здаўна ровар з'яўляецца зручным сродкам перасоўвання. Менавіта таму ён атрымаў усеагульную ўдзячнасць і ўвайшоў у побыт кожнай сям'і. Айчынная прамысловасць выпускае шмат розных відаў ровараў: дарослыя, дзіцячыя, дарожныя, падлеткавыя. З кожным годам выпуск іх у нашай краіне павялічваецца. Наяўнасць вялікай колькасці ровараў на дарогах ускладняе ўмовы руху, а невыкананне веласіпедыстамі правіл дарожнага руху прыводзіць да дарожна-транспартных здарэнняў з цяжкімі наступствамі. У 2015 годзе на тэрыторыі нашага раёна адзін раварыст загінуў у выніку дарожна-транспартнага здарэння, у 2014 годзе загінула 2 раварысты.

Пры руху раварысты часцей за ўсё ігнаруюць такія патрабаванні правіл дарожнага руху як:

Рух на ровары павінен ажыццяўляцца па дарожцы для ровараў, а пры яе адсутнасці – па абочыне, тратуару ці пешаходнай дарожцы, не ствараючы перашкодаў для бяспечнага руху пешаходаў. Пры адсутнасці ўказаных элементаў дарогі ці немагчымасці руху па іх дапушчаецца рух раварыстаў па праезнай частцы дарогі ў адзін шэраг не далей за 1 метр ад яе правага краю. Пры гэтым: выезд далей за 1 метр ад правага краю праезнай часткі дарогі дапушчаецца толькі для аб'езду перашкоды і ў дазволеных выпадках для павароту налева ці развароту; пры наяўнасці на праезнай частцы дарогі лініі гарызантальнай дарожнай разметкі 1.2, якая пазначае яе край, гэта лінія павінна размяшчацца злева ад раварыста.

Пры руху па дарозе ў цёмны час сутак і (ці) пры яе недастатковай бачнасці на ровары ці мапедзе павінны быць уключаныя: спераду - фара (ліхтар), якія выпраменьваюць белае святло, ззаду – ліхтар, які выпраменьвае чырвонае святло.

Ровар павінен мець спраўную тармазную сістэму, рулявое кіраванне і гукавы сігнал, быць абсталяваны люстэркам задняга віду, спераду святлавяртальнікам белага колеру, ззаду – святлавяртальнікам (святлавяртальнікамі) чырвонага колеру, а з кожнай бакавіцы – святлавяртальнікамі памяранцавага колеру.



Пры скрыжаванні праезнай часткі дарогі па пешаходным пераходзе раварыст павінен весці ровар побач з сабой і кіравацца патрабаваннямі, прадугледжанымі дзейснымі Правіламі для руху пешаходаў.

Нагадваем, што адміністрацыйным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, за парушэнні Правіл дарожнага руху, у частцы руху на ровары, паводле часткі 1 артыкула 18.23 Ко АП Рэспублікі Беларусь, прадугледжана адказнасць у выглядзе папярэджання ці накладанні штрафу ў памеры ад адной да трох базавых велічынь, калі ж дадзенае парушэнне здзейснена ў стане алкагольнага ап'янення ці ў стане, выкліканым спажываннем наркатычных рэчываў, псіхатропных рэчываў, іх аналагаў, таксічных ці іншых адурманьваючых рэчываў, а роўна адмова ад праходжання ва ўсталяваным парадку праверкі (агляду) на прадмет вызначэння стану алкагольнага ап'янення або стану, выкліканага спажываннем наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх аналагаў, таксічных ці іншых адурманьваючых рэчываў, то адказнасць настае па частцы 2 артыкула 18.23 Ко АП Рэспублікі Беларусь, дзе ўжо прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры ад трох да пяці базавых велічынь, калі ў выніку парушэнняў Правіл дарожнага руху з боку раварыста будзе створана аварыйная становішча, то штраф будзе складаць ад трох да васьмі базавых велічынь паводле часткі 3 артыкула 18.23 Ко АП Рэспублікі Беларусь, а калі ў выніку парушэнняў будуць прычыненыя пацярпеламу лёгкія цялесныя пашкоджанні або пашкоджанне транспартнага сродку, грузу, дарожнага пакрыцця, дарожных і іншых збудаванняў ці іншай маёмасці, а таксама пакіданне імі месца дарожна-транспартнага здарэння, удзельнікамі якога яны з'яўляюцца, то штраф паводле часткі 4 артыкула 18.23 Ко АП Рэспублікі Беларусь складзе ад пяці да дваццаці базавых велічынь.

Паважаныя ўдзельнікі дарожнага руху, паклапаціцеся пра сваю бяспеку, бяспеку родных і блізкіх. Не дапушчайце да руху раварыстаў, не дасягнулых 14-гадовага ўзросту, без суправаджэння паўналетняй асобы, а таксама асобаў старэчага ўзросту, якія не могуць кіраваць роварам, не ствараючы перашкод іншым удзельнікам дарожнага руху, у сілу свайго ўзросту, або стану здароўя. Не заставайцеся абыякавымі да момантаў, калі Вы выявілі "нецвярозага" раварыста рухомага па дарозе, які не пазначыў сябе ў адпаведнасці з ПДР, патэлефануйце "102", паведаміце месца яго знаходжання, магчыма, Вы выратуеце чыёсьці жыццё і дапаможаце пазбегнуць бяды сям'і і блізкім гэтага чалавека, а таксама папярэдзіце магчымасць іншым удзельнікам дарожнага руху стацца прычыніцелям шкоды такому "гора-раварысту".

# За ровар на лесвічнай пляцоўцы прыйдзецца заплаціць 690 рублёў

**Пракуратура Віцебска папярэджвае ўладальнікаў ровараў аб адміністрацыйнай адказнасці за загрувашчванне дапаможных памяшканняў сваёй маёмасцю.**

З пачаткам цёплага сезона і, адпаведна, выкарыстання ровараў, адзначаецца рост крадзяжоў гэтага тыпу транспарту. Пры гэтым, як правіла, выкрадаюцца ровары, пакінутыя без нагляду ў пад'ездах жылых дамоў альбо побач з імі. Такая халатнасць і нядбайнасць уладальнікаў, якія не задумваюцца пра захаванасць сваёй маёмасці, стварае ўмовы для здзяйснення крадзяжу і становіцца стымулам для зламысніка, каб перайсці грань закона, адзначае пракуратура Віцебска.



У цяперашні час захоўванне маёмасці ў калідорах, праходах, на лесвічных маршах і пляцоўках, у запасных выхадах і ў іншых дапаможных памяшканнях паводле падпункта 16.6 пункта 16 "Правілаў карыстання жылымі памяшканнямі, утрыманне жылых і дапаможных памяшканняў" можа разглядацца як загрувашчванне гэтых памяшканняў, за што прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць па частцы 1 артыкула 21.16 КоАП у выглядзе штрафу да 690 рублёў, паведамляе памочнік пракурора Віцебска Яўгенія Ісачэнка.

Гэта папярэджанне датычыць не толькі раварыстаў, але і жыхароў, якія пакідаюць без нагляду любую маёмасць – дзіцячыя калыскі, будаўнічыя матэрыялы, абсталяванне і і г.д.

***ННВ.***

# Без парушэнняў не абышлося

У рамках Рэспубліканскай акцыі "За бяспеку разам" працаўнікамі інспекцыі нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага РАНС сумесна з начальнікам участка па бягучым утрыманні і рамонце жыллёвага фонду ўнітарнага прадпрыемства "Жыллёва-камунальная гаспадарка Глыбоцкага раёна" праведзены рэйды па праверцы гарышчаў, склепаў і месцаў агульнага карыстання ў шматкватэрных жылых дамах.

На жаль, падчас правядзення рэйдаў быў выяўлены шэраг парушэнняў. Сярод іх – адсутнасць замкоў на ўваходных дзвярах у падвальных памяшканнях, размяшчэнне мэблі на лесвічных клетках, якая перашкаджае бяспечнай эвакуацыі, наяўнасць у падвальных памяшканнях гаручага смецця, пашкоджаных адгалінавальных скрынак электрычнай сеткі. Жыхарамі кватэр самавольна загрувашчаны запасныя эвакуацыйныя выхады, а менавіта праход да выхаду эксплуатуецца, як складское памяшканне, якое цалкам захламлена гаручымі матэрыяламі, а з боку калідора дзверы зачыненыя на навясны замок.





По выніках праведзеных рэйдавых мерапрыемстваў падрыхтавана інфармацыя дырэктару ўнітарнага прадпрыемства "Жыллёва-камунальная гаспадарка Глыбоцкага раёна" пра ўхіленне выяўленых парушэнняў.

***Глыбоцкі РАНС.***



## МНС інфармуе

**на 18.04.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 233;
Гібель людзей – 42, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 14;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма

***

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

# Самы вялікі падатак плаціла мястэчка Глыбокае – 250 000 рублёў,

## а Мёры і Паставы ўсяго толькі па 10 000, але Шаркоўшчына – 100 000 рублёў

■ Н.А. Баравік,
*дырэктар Дзяржархіва, г. Глыбокае.*

**Айчынная фінансавая сістэма хутка будзе адзначаць стагоддзе. У перадпачатку векавога юбілею пазнаёмім чытачоў з гісторыяй развіцця фінансавай сістэмы на Дзісненшчыне ў 1918-1919 гадах.**

Да лістапада 1918 года тэрыторыя Дзісненскага павета Віленскай губерні была вызваленая ад немцаў і тут усталявана савецкая ўлада. На той час у склад Дзісненскага павета ўваходзілі наступныя валасці: Богінская, Вярхнянская, Германавіцкая, Глыбоцкая, Друйская, Залеская, Ёдская, Пастаўская, Лявонпальская, Лужэцкая, Луцкая, Мёрская, Мікалаеўская, Нова-Пагосцкая, Перабродская, Пліская, Празароцкая, Стэфанпольская, Чэраская, Чарневіцкая, Язненская.

Мясцовым органам савецкай улады і кіравання на разгляданай тэрыторыі з'яўляўся Дзісненскі павятовы Савет працоўных, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў і яго выканаўчы камітэт, пры якім у мэтах кіраўніцтва каштарысна-касавай і фінансавай справай 18.12.1918 быў створаны фінансавы аддзел (далей – фінаддзел). Паводле Палажэння аб арганізацыі фінансавых аддзелаў губернскіх і павятовых выканкамаў адначасова касаваліся казённыя Палаты.

Што цікава, размяшчаліся фінансісты ў Дзісне ў доме па вуліцы Казначэйскай.

Узначальваў фінаддзел загадчык, архіўныя дакументы сведчаць, што першым кіраўніком гэтай установы стаў Трэбелеў Меер Самуілавіч, затым яго змяніў Сінкевіч Восіп Іванавіч, пазней у сакавіку 1919 года – Лапідус Іосіф Барысавіч.

У задачы фінаддзела ўваходзіла вядзенне агульнай бухгалтэрыі выканкама, складанне справаздач аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці, кантроль правільнага выдаткоўвання грашовых сродкаў, выліччэнне мясцовых падаткаў, збораў.

Структура і абавязкі службоўцаў былі падобныя з тымі, якія сёння выконваюць фінансісты. Фінаддзел з 1918 года падпадзяляўся на каштарысна-касавы і падатковы пададдзелы.

Каштарысна-касавы пададдзел (ці на сучасны лад – бюджэтнага ўпраўлення) займаўся разглядам каштарысаў павятовых і валасных Саветаў, разборам хадайніцтваў аб дапаможніках (пособиях) і пазыках, выпрацоўкай для валасных і сельскіх Саветаў інструкцый па каштарыснай, касавай справе.

Падатковы пададдзел (у наш час – падатковая інспекцыя) спаганяў агульнадзяржаўныя і мясцовыя зборы, збіраў і аналізаваў звесткі аб эканамічным становішчы насельніцтва і яго аплатных сродках, распрацоўваў для сельсаветаў неабходныя інструкцыі па падатковым уліку.

Уснежні 1918 года была адкрыта ашчадная каса ў г. Дзісна і казначэйства.

Штатны склад фінаддзела вызначаўся губернскім выканкамам і зацвярджаўся Народным Камісарыятам Фінансаў. На пачатак 1919 года ў Дзісненскім фінаддзеле налічвалася 11 чалавек.

Складанасць таго часу, адсутнасць кваліфікаваных кадраў і дакладных рэгламентаў працы фінансавых органаў, якія рэарганізоўваліся, шматфункцыянальнасць дзейнасці з'явіліся прычынай указання, што састаў працаўнікоў новых фінорганаў мог камплектавацца з ранейшых дасведчаных служачых казначэйстваў, земскіх і гарадскіх упраў. Аднак па стане на ліпень 1919 года, напрыклад, у падатковым пададзеле не было ніводнага працаўніка з адмысловай адукацыяй. Загадчыкам лічыўся Суднікові Канстанцін Карлавіч (43 г.), бухгалтарам - Марыя Людвігаўна Тарноўская (28 г.), памочнікам справавода - Тэрэзія Іосіфаўна Рундо (22 г.), рахункаводам - Уладзіслаў Антонавіч Арлоўскі (24 г.).



Вуліца Замкавая ў мястэчку Глыбокае. Паштоўка 1910-х гг.

Якімі былі першыя крокі створанага фінансавага органа? Рэвалюцыйныя пераўтварэнні патрабавалі грашовага забеспячэння. Таму ўжо на трэці (!) дзень працы фінаддзел пачаў расследаванне па высвятленні, куды зніклі грошы пасля ліквідацыі Дзісненскага абывацельскага камітэта і Віленскага аддзялення Маскоўскага і Тацьянінскага дабрачынных камітэтаў. Яшчэ праз некалькі дзён аддадзена распараджэнне казначэйству аб абмене залатых і срэбных манет, наяўных у насельніцтва на крэдытныя квіткі. Таксама з мэтай канфіскацыі прыбыткаў сабраныя звесткі аб асобах, якія мелі рахункі ў банках і якія пакінулі тэрыторыю павета.

Для павелічэння прыбыткаў мясцовага бюджэту пераглядаліся існыя падаткі і стаўкі. Адно з нававядзенняў – усталяванне аднаразовага падатку на музычныя прылады, якія належаць прыватным уладальнікам. Падатак на раяль складаў 100 рублёў, на піяніна – 75 рублёў, на фісгармонію – 30 рублёў. Фінаддзелам у студзені 1919 года праводзілася праца па ўліку наяўных у г. Дзісна і павеце музычных прыладаў, выплаціць падатак трэба было да 1 сакавіка. У выпадку не выплаты – музычныя прылады канфіскоўваліся. Раялі, піяніна, уладальнікі якіх з'ехалі за межы Дзісненскага павета, а таксама іншыя музычныя прылады былых памешчыкаў (Віктара Мірскага, Пятра Сіўца, Граноўскага, Барткевіч, Кагана і інш.) былі канфіскаваныя і перададзеныя ва ўладанне школ і культурна-асветных устаноў.

Яшчэ адзін збор, усталяваны новай уладай, закрануў хатнюю скаціну: падатак з галавы буйнай скаціны складаў 20 рублёў і з галавы дробнай скаціны – 2 рублі.

Упадпаведнасці з Дэкрэтам ЦВК Саветаў працоўных сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў ССРБ "Аб прыбытках і выдатках мясцовых Саветаў" у выпадку недастатковасці прыбыткаў мясцовыя органы ўлады і ўпраўлення маглі ўсталёўваць разнастайныя падаткі: з сабак; публічных гледзішчаў і забаў; з ровараў, экіпажаў, маторных лодак; за санітарны агляд прывозімага мяса; з рэклам і аб'яў; з коней; з асобаў, якія наймаюць прыслугу; з корчмаў; з рамізніцкага промыслу і інш.

За першую палову 1919 года ў мясцовую павятовую казну паступілі зборы: за ўтрыманне скаціны – 13 045 руб., за пашу скаціны – 14 301 руб., за карыстанне гарадской зямлёй і гародамі – 11 621 руб., за дастаўку вады на сельтэраўскі завод – 24 руб., за зарэз скаціны на гарадской бойні – 460 руб., збор за ўжыванне грамадскіх мер і шаляў – 50 руб., за гарадскія крамы – 527 руб., 25 % ад прыбыткаў лазні, што знаходзілася ва ўласнасці Штліца – 257 руб., пяня за няўчаснае паступленне збораў – 200 руб.

Упадпаведнасці з Дэкрэтам ВЦІК ад 30 кастрычніка 1918 г. "Аб абкладанні сельскіх гаспадароў натуральным падаткам" быў уведзены натуральны падатак, аб'ектам абкладання якога сталі пасяўныя зямельныя ўчасткі і скаціна. У дакуменце прыводзіліся наступныя аргументы ўводзінаў падатку: *"Больш заможныя і багатыя сяляне... па-старому валодаюць вялікімі па памерах і лепшымі па ўрадлівасці ўчасткамі глебы, з якіх яны атрымліваюць не толькі дастатковыя для нябеднага існавання сродкі, але і вялікія лішкі. Акрамя таго, дзяржава пасля чатырохгадовай найцяжэйшай вайны адчувае крайнюю патрэбу ў прадуктах сельскай гаспадаркі, якая прымушае абкласці натуральнай павіннасцю найболей забяспечаную частку працоўнага сялянства. Таму, імкнучыся да поўнага вызвалення бядноты ад нясення падатнага цяжару, шляхам перакладання ўсяго падатковага цяжару на маёмасна забяспечаныя класы, з тым, каб у вёсцы сярэднія сяляне абкладаліся толькі ўмераным падаткам, а на кулакоў-багацеяў была ўскладзена галоўная частка дзяржаўных збораў…"*.

Натуральны падатак павінен быў уносіцца жытам, іншымі збожжавымі ці іншымі прадуктамі сельскай гаспадаркі і жывёлагадоўлі.

У разгляданы перыяд быў уведзены мясцовы аднаразовы надзвычайны рэвалюцыйны падатак у суме 10 млрд. руб. для забеспячэння патрэб Чырвонай Арміі. Агульная сума падатку раскладвалася па губернях, гарадах, паветах і валасцях, а затым – па платніках, абкладаліся заможныя групы гарадскога і сельскага насельніцтва. На выканкамы мясцовых Саветаў былі ўскладзеныя абавязкі па размеркаванні сум падаткаў паміж асобнымі платнікамі. Дзісненскі фінаддзел замаўляў у Камісарыят Фінансаў аб зніжэнні падатковай нагрузкі на павет, спасылаючыся на тое, што пры адступленні немцаў шмат памешчыкаў збегла за межы павета, большасць сялянаў падверглася значнаму спусташэнню падчас ваенных дзеянняў 1915-1917 гг. і павет не можа быць пастаўлены ў роўныя ўмовы з іншымі паветамі. У канчатковым выніку, пастановай Дзісненскага выканкама да спагнання была прызначана сума ў 2,5 млн. рублёў. У разрэзе валасцяў падатак размеркавалі наступным чынам: Мёрская, Лявонпальская, Нова-Пагосцкая, Пліская валасці – 80 000 руб.; Чэраская – 55 000 руб.; Мікалаеўская – 120 000 руб.; Язненская – 85 000 руб.; Празароцкая – 100 000 руб.; Чарневіцкая – 20 000 руб.; Германавіцкая, Ленінская – 50 000 руб.; Луцкая – 75 000 руб.; Богінская, Друйская, Перабродская, Стэфанпольская – 65 000 руб.; Ёдская, Лужэцкая, Шаркаўшчызненская – 90 000 руб.; Вярхнянская – 45 000 руб.; Залеская – 70 000 руб.; мястэчкі Паставы, Германавічы, Лявонпаль, сяло Мёры – 10 000 руб.; мястэчка Глыбокае – 250 000 руб. (найвялікшая сума!); Шаркоўшчына – 100 000 руб.; Пліса – 15 000 руб.; Лужкі – 90 000 руб.; Нова-Пагост – 25 000 руб.; г. Друя – 100 000 руб.; г. Дзісна – 220 000 руб.

На месцах выканкамы разаслалі павесткі грамадзянам з патрабаваннем унесці ўказаную суму ў трохдзённы тэрмін пасля атрымання павесткі, а ў выпадку няўплаты пагражаў арышт і да выплаты кантрыбуцыі такі грамадзянін лічыўся закладнікам.

Гістарычныя факты кажуць пра тое, што праца на фінансавай ніве таго часу была неймаверна складанай. Інструктавання ў вобласці праводжанай фінансавай палітыкі практычна не было, рынкавыя адносіны згортваліся, праводзілася натуралізацыя эканомікі. Рэвалюцыйныя фінансавыя пераўтварэнні рабіліся людзьмі, у большасці сваёй, не мелымі адпаведнай адукацыі. Як пажаданне цяперашняму пакаленню фінансавых працаўнікоў гучыць патрабаванне амаль стогадовай даўнасці: *"Фінансавы аддзел павінен стаць вокам Савецкай улады на месцах. Ён павінен уваходзіць у ацэнку ўсіх буйных грашовых выдаткаў на месцах, узважваць іх прадукцыйнасць, не абмяжоўваючыся вузка пастаўленымі рамкамі ў сваёй працы"*.

# Прыватныя Абвесткі





## Аўтамабілі на продаж:

Аўдзі-80 В3, 1987г.в., 1,8Б, добры стан, колер шампанскага, кошт па дамове. Т.: 8029-698-46-25(в)

Опель-Вектра, 2000г.в., 1,8Б, зялёны металік, універсал, або абмяняю з маёй даплатай. Т.: 519-42-30(мтс)

ФВ-Гольф-2, 1987г.в., 1,3Б, люк, ц\з, с\бежавая, кошт па дамове.Т.:8033-632-34-17 (мтс)

ФВ-Пасат В3,1991г.в., 1,9Д, універсал, 1000 руб., без торга. Т:8029-286-65-32(мтс)+

Форд-Эскорт, 1998г.в., 1,8ТДі, або абмен на матаблок з прычэпам. Т.: 8-029-212-24-46 (мтс)

Шкода-Феліцыя, 1999г.в., 1,6Б, бардовы хэтчбэк, г\у, эл\пакет люстэрак, велюр, АВС, 2ПБ, СД-магнітола, супрацьтуманкі, 6л\100км, зроблена дадатковая анцікаразійная апрацоўка, выдатны стан, нядорага. Т.: 8033-370-69-72(мтс)*

Фіат-Брава, 2009г.в.,1,4Б, чорны, таніраваны, ідэальны стан,125 млн. руб. Т:8029-892-87-21(мтс)+

Мікрааўтобус Мэрсэдэс МВ-100, 1995г.в., грузавы, высокі, максібаза, пераварaны, 2300 руб., або абмен на л\а або трактар. Т.:8029-286-65-32(мтс)+

## Куплю машыны, трактары, прычэпы, матацыклы:

**Іншамарку ў любым стане, з любымі праблемамі. Дорага. УНН 22380039088 1. Т:8029-210-31-82 (мтс),8029-641-88-36(в)+**

Куплю трактар у добрым стане Т-25 або МТЗ-80-82, да яго куплю прычэп, касілку, бульбакапалку, плуг, культыватар і інш.Т:8029-120-82-52(в)+

Куплю аўто ў любым стане, з праблемамі і без. Можна аварыйны. Забяру сам. Т.: 8-029-907-04-13, 8-029-534-48-19*

Прычэп да МТЗ-82 з дакументамі. Т.: 8-029-120-82-52(в)+

Іншамарку ў любым стане, можна аварыйную. УНП 391054913. Т:8029-518-12-59(мтс), 8029-715-46-92 (мтс)+

## Прадам трактары, прычэпы, матацыклы, лодкі, веласіпеды:

Скутар «HORS 051», 2014 г.в.,чырвоны, 770 р. Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Матацыкл ЯМАХА F-10, 2002г.в., 600см³. Т.: 810-04-70(мтс)**

Матацыкл МТ 10-36. Т.: 8-033-359-52-75(мтс)

Трактар ЮМЗ, 1987г.в., 3400 руб. Т.: +37529-863-60-24

Матацыкл «Suzuki-Bandit», 2004г.в., выдатны стан, 5000 руб. Т.: 8-033-329-51-91

Матацыкл «Мінск», 2013г.в., 700руб., торг. Т.: 8-029-131-92-54*

Матацыкл «ІЖ-Юпітар-5», з дакументамі. Т.: 8-033-611-11-02(мтс)

## Прадам запчасткі:

Да Аўдзі-80, А4, А6, В4, С4, С5, С6; Кіа-Кларус, Шума, Сэпхія;Нісан-Прэм'ера Р10, 11,12, Альмера, Мікра, Х-Трэйя Т-31;Опель-ВектраВ,А-мега В,АстраG,F,Зафіра, Франтэра В, Корса; ФВ-Гольф-II, III, IV, Джэта-2, 5, Пасат В 3,4,5,6, Т-4; Пежо-106, 206, 307,405, 406, 605, 607, 806; Мазда-626,2,6; Форд-Мандэа 1,3,Транзіт, Фокус, Гэлаксі, Ф'южан, С-Махс; Рэно-19,Меган-,Кліа,Лагуна1,2,Сцэнік,-Эспайс,Сандэра,Маскат, Логан; Таёта-Карола,Ярыс;Вольва-440, 460,ВольваV40;S40,ХС70; Дэо-Нубіра, Леганза, Маціз; Мерседэс-W 201, W202, 203, W210; Сітраен-Сакса, ZX, Эвазіон,Ксара,С3Пікасо; Сеат-Таледа,Ібіца,Кардоба; Міцубісі-Ландэр, Галант, Міцубісі ASX; Фіат-Пунта 1, 2,3,Марэа; Крайслер-Неон. Ваяджэр; Хундай-Поні, Лантра; Шэўрале-Нубіра, 2006 г.в: Ровер-214, 216, 1993г.в.Асартымент запчастак пастаянна зьмяняецца і павялічваецца мадэльны шэраг аўтамабіляў. Т.: 292-99-33(мтс), 338-71-83 (в), 8-029-210-31-82 (мтс) *Ліц. №22380\0037920 ад 23.03.2004г.выд.Полацкім РВКда18.05.2013г. ІПФіліпсон С.І.УНП22380039088 1+*

Запчасткі б\у з Еўропы, для: Аўдзі-100, 80, А4, А6; Сітраен-Берлінга, Пікасо, С8,Ксара,Эвазіон, Ксантыя;Фіат-Марэа,Пунта; Форд-Галаксі, Эскорт,Арыён, Фокус, Мандэа; Хундай-Акцэнт, Матрыкс; Опель-Астра,Зафіра, Корса, Амега, Вектра, Цігра; Пежо-206, 307, 406, 605, 806, 807, Партнёр; Рэно-19, Кліа, Лагуна, Меган, Сцэнік;-Сеат-Альхамбра, Таледа; ФВ-Гольф,Джэта, Пасат, Шаран, Вента. Асартымент запчастак пастаянна змяняецца. УНП 391054913. Т.:8029-518-12-59 (мтс), 8-029-715-46-92 (мтс), 8025-709-51-24(л)+

Да Мэрсэдэс МВ 100: каробка перадач, стартар, генератар, куліса. Больш нічога няма. Т:8029-286-65-32(мтс)+

**Аўтазапчасткі ў г. Глыбокае**. Магазін «Бегемот», вул. Леніна, 87. Запчасткі да л\а і мікрааўтобусаў, АКБ, маслы, кузаўныя запчасткі, шыны. Аўтакрэслы дзіцячыя. Катлы ацяпляльныя на дровах. УНН 391053348, пасв. № 391053348 ад 19.06. 2009 г. Тэл. гарачай лініі: 8029-712-93-34(мтс)+

Шыны новыя да Ніва, 185\75\R16C, 870000руб\шт. Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Запчасткі да ФВ-Гольф-2 1,6, 1.8, 1,6Д; ФВ-Пасат В2 1,6, 1,8, 1,6Д; Аўдзі-80 В2 1,6, 1,8, 1,6Д; Аўдзі-100 С3 1,8, 2,3і; ФВ-Пасат В3 1,9Д, 1,8Б. Т.: 537-10-70(мтс), 537-10-90(мтс)**

Гуму летнюю 215\65\R16C, 4шт., крыху б\у, у добрым стане. Т.: 8-029-713-15-71 (мтс)

ВАЗ-2106, 1984, з дакументамі, 500руб., на запчасткі. Т.: 8-029-777-79-26

Бензагенератар «ENDRESS ESE 2000A», б\у, стан новага, 300руб. Т.: +37529-712-89-04 (мтс)

Рухавік ад Опель-Астра, 1990г.в., 1,6Б, па запчастках. Т.: 8-033-337-37-37(мтс)

Рэно-19, па запчастках, можна цалкам. Т.: 8-033-612-22-94**



Л\дыскі 6J14H2 ET45 з гумай 185\60\R14, камплект для Аўдзі, ФВ. Т.:8-029-307-55-95

Л\д на Опель R-15, 400руб, гуму летнюю R15, 4 колы, 200руб. Т.: 8-029-511-94-14(мтс)

## Куплю запчасткі:

Заднюю балку да Хундай-Лантра, 1996г.в. Т.: 513-79-31(мтс)

## Прадам нерухомасць:

Дом у в. Пашкі, Шаркоўшчынскі р-н, на беразе ракі Дзісна, з дакументамі, 770.руб. Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Дом у в. Станіслаўова, Шаркоўшчынскі р-н, з дакументамі, 1100руб. Т.:8029-892-87-21(мтс)+

Дом у в. Давыдкі (ля Галубіч), побач лес, рака, возера, з дакументамі, 1100руб. Т:8029-286-65-32(мтс)+

Дом недабудаваны ў Глыбокім, вул. Сонечная, 8. Т:8033-659-48-91(мтс)+

Кватэру 3-пакаёвую па вул. Міра, у панэльным доме, пакоі ўсе асобныя, санвузел асобны, з рамонтам, аг.пл. 59 м², 3-і паверх, кошт пасля агляду кватэры. Т.: 216-80-93 (мтс), 294-67-96(мтс)****

Дом у в. Бушукі (мэбля, вада), побач лес, возера. Т.: 8-029-297-70-12+

Кватэру 2-пакаёвую ў р-не МКК, з рамонтам. Т.: 8-029-714-93-09

Дом стары ў Глыбокім, нядорага. Т.: 8 (033) 675-17-22*

Дом, в. Залессе, 15км ад Глыбокага, сад, вада, гаспабудовы. Ціхае месца, агарод 25 сотак. Побач лес, возера. Т.: 8-029-858-80-35+3

Кватэру 2-пакаёвую, Глыбокае, вул. Маладзёжная, 5. Кошт па дамове. Т.: 8-029-372-81-08*

Дом, г. Глыбокае, вул. Кастрычніцкая, 35. Т.: 718-64-58(мтс)**

Дом, в. Прыпернае. вул. Партызанская, 19. Т.: 716-98-22(мтс)**

Дом у Глыбокім, вул. 30 год Перамогі, 42, пячное і газавае ацяпленне, вада, гараж, гаспабудовы, склеп, тэлефон, кошт па дамове. Т.: 519-79-42**

Дом 100м², г. Глыбокае, усе выгоды, гаспабудовы, гараж, лазня. Т.: 5-44-16, 8-029-254-67-05(мтс)

Дом у Глыбокім, з усімі камунікацыямі, кошт па дамове. Т.: 8-029-599-72-47, 8-029-512-82-23**

Кватэру 2-пакаёвую + гараж, вул. Садовая, 36, 4-ы паверх. Т.: 894-82-51(мтс)*

Дом у цэнтры горада. Т.: 8-029-294-66-24

Кватэру 1-пакаёвую, г.п. Варапаева, Пастаўскі р-н. Т.: 8-029-898-68-13*

Кватэру 1-пакаёвую, вул. Паўночная, 3, 2010г.п., цагляны, 4-ы паверх, аг.пл.40,9м², лоджыя, шклопакеты, газавы бойлер, 45000руб, торг. Т.: 8-029-5-666-719 (мтс)**

Кватэру 3-пакаёвую і гараж, г. Глыбокае, р-н МКК. Тэрмінова! Т.: 8-029-763-51-97(мтс)

Кватэру 2-пакаёвую, а\г Крулеўшчына, вул. Чарняхоўскага, 36, з мэбляй, пячное ацяпленне (паліва маецца), прысядзібны ўчастак, хлеў. Т.: 896-59-11

Участак пад будаўніцтва дома, побач вада, газ, ж\б слупы па 10м, 14 шт. Т.: 8-029-293-90-19

Дом 6х12м драўляны, у вёсцы, пад знос, у добрым стане. Т.: 8-029-293-90-19

Кватэру 3-пакаёвую, вул. Маладзёжная, 5. Т.: +37533-375-49-16**

Кватэру 2-пакаёвую (паўдома з асобным уваходам), вул. М. Горкага, Глыбокае, выгоды ў доме, газавае ацяпленне. Т.: +37533-630-96-74 (Святлана)



Участак 20 сотак з фундаментам па вул. Палярнай. Т.: +37529-712-89-04(мтс)

Кватэру 3-пакаёвую ў р-не Беразвечча, без рамонту. Т.: 8-025-719-26-83(л)*

Участак 0, 25га на беразе возера з домам і яблыневым садам, в. Нарушова, Глыбоцкі р-н, 10000руб, торг. Усе пытанні па тэлефоне: +37529-895-48-22***

Дом, в. Мярэцкія. Т.: 8-033-902-97-07(мтс)*

Памяшканне пад магазін, у цэнтры горада, са стаянкай. Т.: +37529-712-89-04(мтс)

Дом, 64м², 1974г.п., ёсць вадаправод, лазня, гараж, хлеў, тэлефон, побач газапровад, Глыбокае, вул. Зарэчная, 13. Т.: 8-029-590-32-26 (мтс)***

Дом, г. Глыбокае, вул. Чырвонаармейская, 71, участак 7,5 сотак, вадаправод, 34 тыс. бел.руб., торг. Т.: 8-029-650-26-90

Кватэру 3-пакаёвую, вул. Маладзёжная, Глыбокае. Т.: 8-029-815-07-21

Паўдома, г. Глыбокае, без выгод, пячное ацяпленне, хлеў, склеп, калодзеж, агарод, сад. Вада і газапровад па вуліцы. Т.: 679-10-91(мтс)*

Кватэру 2-пакаёвую ў р-не МКК, без рамонту. Т.: 8-033-691-73-46**

Дом, 180м², в. Шуневічы, ёсць газ, вада, каналізацыя, 20000руб. Т.: 8-029-249-41-04+

## Куплю:

Зруб для лазні, якасны, новы. Лазню на выВаз, або дачу з лазняй, у добрым стане. Т.: 8-029-714-00-74 (мтс)+

## Здам:

Здам у арэнду м-н «Бегемот», вул. Леніна, 87, гандлёвыя плошчы на другім паверсе. Т.: 8-029-757-37-70, 8-029-714-00-74 (мтс)+

* ЗАЎВАГА: калі ў абвестцы не пазначаны код горада, уладальнік тэлефоннага нумару знаходзіцца ў Глыбоцкім раёне.

Здам у арэнду памяшканне, Пл. 17 Верасня, 12, над кафэ «Неон», 17$м^2$, нядорага, зроблены рамонт.
Т.: 8-029-899-92-96, 8-029-711-53-37

Арэнда памяшкання ў цэнтры Глыбокага, вул. Леніна, 26 (40$м^2$ аг.пл.).
Т.: 8-029-512-85-20 (мтс)

Здам жыллё на працягл.ы тэрмін. Т.: 8-033-337-71-61

Здам 3-пакаёвую кватэру. Т.: 8-029-210-51-35

## Здыму:

Здыму кватэру, дорага.
Т.: 8-029-527-90-31*

## Мэбля, посуд, дываны на продаж:

Кухню новую, нядорага, можна ў крэдыт. Пасв. №391050456
Т:8029-892-87-21(мтс)+

Кухні. Распродаж астаткаў. Нядорага. Магчымы продаж у доўг або крэдыт. Бясплатная дастаўка, выбар варыянтаў і колераў. УНП 391054834 выд. Глыбоцкім РВК.
Т:8029-286-65-32(мтс), 8029-892-87-21 (мтс)+

Стол кухонны (рассоўны), зверху пластык, б\у, нядорага. Еўра-ложак (160х220), з матрацам, карычневы, разная спінка. Т.: 5-44-16, 8-029-254-67-05(мтс)

## Прадам катлы, сантэх\абсталяванне:

Кацёл ацяпляльны для гаража, склада, цяпліцы на адпрацаваным масле. УНН391054834.
Т:8029-892-87-21(мтс), 8029-286-65-32 (мтс)+

Кацёл у лазню, 570 руб.
Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Кацёл ацяпляльны на дровах, новы. Пасв. 391050456.
Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Катлы ацяплення, новыя, «Камфорты», «Люксы», нядорага. Магчымы продаж у доўг або крэдыт. «Камфорт-Плюс» на дровах, апілках, брыкецe. Продаж астаткаў катлоў. Бойлеры. Дастаўка. УНН 391054834 . Тэлефон гарачай лініі 8029-286-65-32 (мтс), 8029-892-87-21(мтс), 8-029-714-00-74(мтс)+

Вадазборная сістэма: труба Д-125мм, даўжыня 125см, 10шт.; варонку з каленам, 4шт.; калена ніжняе, 4шт.;латок, 2м.п.; кранштэйн трубы і латка, 24шт. 170руб. Т.: 8-029-516-87-25

## Прадам будматэрыялы:

Кабінкі душавыя, боксы, **распродаж** астаткаў, нядорага. УНН391053348. М-н «Бегемот», вул. Леніна, 87+

Дзверы ўваходныя (дрэва з пластыкам) 2,1х0,9м; дзверы ПВХ балконныя 2,37х0,84м + акно ПВХ неадкрыўное 1,5х0,82м; дзверы міжпакаёвыя драўляныя (Пастаўскія) са шклом 70-ка з каробкай і фурнітурай; дзверы (палатно) 80-ка (Пастаўскія). Усё новае. УНН391054834.
Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Сушылка для ручнікоў з нержавейкі, арыгінальная, завадская, новая, 77руб. УНН391054834.
Т.: 8029-286-65-32 (мтс)+

Свяцільнікі паталочныя, нядорага, ёсць выбар, продаж астаткаў. УНН391054834. Т.: 8-029-286-65-32(мтс)+

Дошкі, брус, страпілы, лагі (паўбрус), дровы, абрэзкі, нядорага. УНН391054834. Т.: 8-029-286-65-32(мтс)+

Бетонамяшалку новую СА180, на 220В, 450руб, можна ў крэдыт.- УНН391054834. Т.: 8-029-286-65-32(мтс)+

Вокны драўляныя, б/у. Т.: 8029-517-91-70**





Дошкі абразныя, неабразныя, брус. Дастаўка.
Т.: 8-029-131-92-54(в)*

Камяні.
Т.: (029) 891-08-45

Профіль 60х40х3, б\у; ОСБ 10 і 15мм, б\у; батарэі чыгунныя б\у; блокі перагародачныя б\у. Вароты гаражныя ралетныя 3,0х2,5м б\у. Лесвіцу металічную на 2-і паверх.
Т.: 810-04-70(мтс)**

Панэлі сцэнавыя (абсталяванне для магазіна): вешалкі, стэлажы для абутку, жалезныя трымальнікі вешалак, бэйджыкі, паліцы для тавара. Кошт па дамове.
Т.: 8-029-293-90-19

Выраб (продаж) тратуарнай пліткі розных відаў і колераў. Бардзюры,водазлівы,балясіны, унутраная гіпсавая плітка і г.д. Укладка пад вібра-пліту. Кошты нізкія і даступныя. Магчыма дастаўка. УНП 391536565
Т.: 899-06-72(мтс), 592-91-52*

Каменне з дастаўкай (машына 4,5т). Т.: +37525-763-70-49(л)

## Куплю будматэрыялы:

Шыфер б\у.
Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Таўру, двутаўру.
Т.:8029-714-00-74 (мтс)+

Лес-кругляк. Т.: 8-029-714-00-74(мтс)+

Чыгунныя батарэі. Т.: 8-029-892-87-21(мтс)+

## Прадам тэлефоны:

Аксэсуары для мабільных тэлефонаў: чахлы, акумулятары, зарадкі. УНП 300594330.
Т.: 813-99-99+

Nokia №8, арыгінал Фінляндыя, шкло Gorilla Glass, камера 12мп, выдатны стан, 145руб.
Т.: +37529-712-89-04(мтс)

## Бытавая тэхніка і газавае абсталяванне на продаж:

Бойлер «Арыстон» на 30л, новы. Катлы ацяпляльныя на дровах. УНН 391054834..
Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Пароачысціцель «KarcherSC 3.000», новы, прафесійны, для інтэнсіўнай чысткі дываноў, канапаў, салонаў аўто, кафеля, газавых пліт, сантэхнікі, 340руб.
Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

**Прынтар, ксеракс.**
**Т.: 517-46-14(мтс)+**

Тэлевізар «Гарызонт» б\у, Д=35см.
Т.: 8-029-296-45-88(мтс)

Кандыцыянер інвентарны (цяпло+холад), б\у, выдатны стан, поўны камплект з вентылятарам. Дапамагу з устаноўкай. Т.: +37529-712-89-04(мтс)

Цеплавентылятар-абагравальнік, паварочваецца на 90*, 1,8W, на 25$м^2$, «ВОКК», Германія, б\у, выдатны стан, з пультам, 150руб. Т.: +37529-712-89-04(мтс)

## Прадам еміну:

**Бульбу насенную ранніх гатункаў.**
**Т.: 514-21-76(мтс)**

**Бульбу вялікую.**
**Т.: 514-21-76(мтс)+7**

Бульбу буйную. Т.: 5-10-42; 8 (029) 895-57-43

За добрым настроем і зарадкай дадатнай энергіяй, запрашаем у магазін разліўнога піва: г.Глыбокае, вул. Дзяржынскага, 3 (ДАСААФ). **ПІВА** бачкавое, жывое на разліў, нядорага. УНН391054834.
Т.: 8-029-745-00-74 (мтс)(з 10.00 да 22.00)+

Жыўнасць 9 тыдняў, на мяса.
Т.: 8-029-596-92-02, 8-044-647-70-71*

Жыўнасць на мяса.
Т.: 8-033-676-77-88

Жыўнасць на мяса, 5,5руб\кг, 6,5руб\кг.
Т.: 3-29-40

Паўтушы жыўнасці, 6руб\кг.
Т.: 598-45-65(мтс)

Жыўнасць на мяса.
Т.: 8-033-350-91-68

## Прадам жывёлу, рыбак:

Жыўнасць белую, 7 тыдняў.
Т.: 8 (029) 218-92-83

Авечак з ягнятамі. Т.: 249-65-09(мтс) (Антон)

Жыўнасць (Дзірок).
Т.: 3-29-40*

Цялушку 10 мес., 650руб.
Т.: +37529-919-16-66, +37533-690-56-60

Жыўнасць в'етнамскую, белую жыўнасць, авечак.
Т.: 646-08-56(мтс)

Жыўнасць 50кг і больш, 4,50\кг жывой вагі.
Т.: 3-29-40

## Куплю жывёлу:

БРЖ (каровы, быкі, цяляты, авечкі) жывой вагой і інш. Кошты высокія. УНН390171773.
Т.: 8-029-202-54-06*

## Прадам пчол і абсталяванне:

Навучу пчалярству бясплатна, перадам вопыт. Магу прадаць вуллі, медагонку, рамкі, вашчыну і іншы інвентар. Актыватар вады для павелічэння вытворчасці пчол.
Т.: 8-029-286-65-32(мтс)+

## Тавары для дзяцей:

Каляску Джып новую, нядорага.
Т.: 8-029-297-70-12+

Каляску дзіцячую Джып, Глыбоцкі р-н.
Т.: 3-94-49, 897-55-22

## Прадам адзенне:

Вясельную сукенку, п-р 42-44, ідэальны стан.
Т.: 8-044-755-65-69(в)

## Прадам паліва:

Дровы, абрэзкі, распродаж, аўтамабіль ЗІЛ, прывязу. Кацёл ацяпляльны на дровах. УНН391054834.
Т:8-029-286-65-32 (мтс)+

## Прадам сельгасінвентар:

Акучнік, прычэп 1-восны, да трактара МТЗ.
Т.: 8-029-351-81-76

## Куплю сельгасінвентар:

Зубы культыватарныя чызельныя.
Т.: 8-02156-4-18-96, 8-029-669-19-62(в)

## Прадам тавары для здароўя:

**Бабровую струю** - эфектыўна ўзнаўляе патэнцыю, амалажвае,- садзейнічае пахудзенню
Т:8029-286-65-32(мтс)+

**Жывая і мёртвая вада** вылечвае многія хваробы. Аб карысці жывой і мёртвай вады самастойна знаёмцеся ў інтэрнэце. па пытаннях заказу і пакупкі прыбора для вытворчасці жывой і мёртвай вады тэлефануйце 8-029-892-87-21(мтс)+
у падарунак кніга «Лячэнне жывой і мёртвай вадой» Г.Д. Лысенка. Вытв. РБ. Ліцэнзія. Афіцыйны сертыфікат МінРБ.УНН391054834.
Т.: 8029-892-87-21 (мтс)+

## Куплю калекцыі:

Фарфоравыя статуэткі часоў СССР, ГДР, узнагароды, манеты, калекцыі. Дорага. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК.
Т:8029-286-65-32(мтс)+

Старыя манеты, значкі, званочкі, брытву, баян, радыёпрыёмнікі, фарфоравыя фігуркі.
Т.: 2-94-40, 8-029-510-43-80

## Здам:

Здам будаўнічыя рыштаванні (леса) ў арэнду (6х6), 20руб. \1 дзень, ад 3 сутак. УНН391054834.
Т:8029-286-65-32(мтс)+

Здам будаўнічыя рыштаванні (леса) ў арэнду.
Т.: 810-04-70(мтс)**

## Прадам эл\абсталяванне:

Кампрэсар прафесійны на 380В, 470руб.
Т:8029-892-87-21(мтс)+

Трохфазны эл\рухавік.
Т:8029-892-87-21(мтс)+

Апарат зварачны генератарнага тыпу (прывад ад эл\рухавіка, або трактара) 380В, 470руб. (470 руб).
Т.: 8029-892-87-21 (мтс)+

Апарат зварачны на 380В, прафесійны, 570руб.
Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Перфаратар «Інтэрскол», крыху б\у, 140руб.
Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Эл\рухавік 2,2кВт х 2820, вал - 18, фл. 0,6кВт х 2820 АОЛ 22-2, вал - 14.
Т.: 8-029-307-55-95

## Прадам іншае:

Жорны (каменне) для ўпрыгожання двароў, фундаментаў. УНН391054834
Т:8029-892-87-21(мтс)+

Бочкі на 200л для лазні, пад пітную ваду або летні душ, ацынкаваныя, таўстасценныя, 85руб.; бочкі металічныя пад паліва, 20руб. УНН391054834. Т.: 8-029-286-65-32(мтс)+

Ламінат, продаж астаткаў, ліквідаванне склада, нядорага. УНН391054834.
Т:8029-286-65-32(мтс)+

Бочкі з-пад аўтамабільнага масла на 200л, распродаж, 25 бел.руб. УНН391054834.
Т.:8029-892-87-21(мтс)+

Кацёл ацяпляльны, новы.Т.:8029-286-65-32 (мтс), 8029-892-8721(мтс)+

За добрым настроем і зарадкай дадатнай энергіяй, запрашаем у магазін разліўнога піва: г.Глыбокае, вул. Дзяржынскага, 3 (ДАСААФ). **ПІВА** бачкавое, жывое на разліў, нядорага. УНН391054834.
Т.: 8-029-745-00-74 (мтс)(з10.00 да 22.00)+

Распродаж нядорага: бочкі (бутлі) пластыкавыя на 30 л для дамашніх віназдзелаў, пітной вады, для спіртных напояў, вады ў лазню, пчалаводам для захоўвання мёду, для парнікоў і іншых гаспадарчых патрэб.УНН391054834.
Т:8029-286-65-32(мтс)+

Дошкі, брус, страпілы, лагі (паўбрус), дровы, абрэзкі, нядорага. УНН391054834. Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

**Прычэп торфу, зямлі, гною. З дастаўкай. Т.: 514-21-76 (мтс)**

Ёмістасць з нержавейкі 1м³. Т.: 518-36-39(мтс)

## Куплю іншае:

Таўру, двутаўру. Т: 8029-714-00-74 (мтс)+

Вулей з пчоламі. Т.: 8-029-714-00-74 (мтс)+

Ручную мясарубку 10 нумар. Т.: 8-029-714-00-74 (мтс)+

## Пасажырскія перавозкі:

**Заказныя пасажырскія перавозкі**, семінары, вяселлі, экскурсіі. Камфартабельны аўтобус 8-15 месц, наяўны і безнаяўны разлік. ІП Шабан .В. Ліц. Мінтранспарта №3-32415 ад 16.12. 2012 да 16.12.2022г. Т.:8033-646-21-99 (МТС), 8-0291902199(В)+10

**Адвязу людзей у Дыягнастычны цэнтр**. ІП Шабан В.В. Ліц. Мінтранспарта №3-32415 ад16.12. 2012 да 16.12.2022 г. Т.: 8033-646-21-99 (МТС), 8029-190-21-99 (В)+10

## Грузаперавозкі:

Грузаперавозкі па РБ: МАЗ, тэнт 40 кубоў, 10т. УНН 391054834 выд. г Глыбоцкім РВК. Т:8029-286-65-32(мтс)+

УРАЛ-лесавоз з маніпулятарам. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т.:8029-892-87-21(мтс)+

Перавозкі грузаў папутна з Глыбокага ў Мінск, з Мінска ў Глыбокае, любой вагі і аб'ёму (ад 1кг да 20т), а таксама любыя іншыя напрамкі. УНН 391054834. Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Эвакуацыя л\а, джыпаў, а таксама перавозка розных грузаў да 3т, грузавая платформа, па РБ, РФ, Літве, Латвіі. УНП390056166. Т.: 8-029-713-32-88, 8-044-713-32-88+1

Паслугі самазвала, 6т. Дастаўка пяска, шчэбня, грунта, вываз смецця і паслугі пагрузчыка (Амкадор), пагрузка сыпучых матэрыялаў. Зрэзка расліннага слоя, планіроўка, пагрузка смецця. УНП391537097. Т.: 8-029-216-30-00+13

Перавозка сыпучых грузаў (сеяны пясок, гравій) да 6т, ЗІЛ-130, самазвал. УНП390056166. Т.: 713-32-88(мтс), 713-32-88(в)+8

## Паслугі:

Адкачаю каналізацыю. УНП 390271248. Т.: 8-029-713-36-35+2

Паслугі прычэпа: вываз будаўнічага смецця, прывязу гравій, пясок і многае іншае. УНП 390271248. Т.: 8-029-713-36-35+2

Дапамога ў пакупцы аўтамабіля ў Беларусі, Расіі, Літве. Праверка электронным таўшчынямерам: біты\не біты, фарбаваны\не фарбаваны\падфарбаваны. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т.: 8-029-120-82-52(в)+

Паслугі па рубцы зрубаў. УНН391054834. Т.: 8029-892-87-21 (мтс)+

Кваліфікаваны спецыяліст выканае: рамонт, замена і ўстаноўка сантэхабсталявання; зборка, устаноўка душавых кабінак і інш.; мантаж ацяплення, вадаправода і каналізацыі. Рамонт, падключэнне і ўстаноўка эл\абсталявання. Пластык, ламінат і інш. Хутка і якасна! УНП 391532784, ІП Сауліч В.В.Т:+37529-218-38-66 (мтс)+6

Паслугі электрыка. УНП 391532784. Т.:+37529-218-38-66 (мтс)+6

Рамонт грузавых аўтамабіляў, прадастаўленне рамонтных месц. Такарныя, слясарныя, зварачныя работы. УНП390477474. Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Бур і К», Г. Глыбокае, вул. Чыгуначная, 14. Т.: 8-029-595-30-75+1

Акажу будаўнічыя паслугі: каркасна-шчытавыя блочныя збудаванні тэрас, веранд, гаражоў, дамоў, аддзелка лазняў, мансард, фасадныя, кровельныя, бетонныя работы, тратуарная плітка, агароджы з каменя, унутраная аддзелка і многія інш. работы.УНП391534031. Т.: 816-06-74(мтс)

Паслугі экскаватара (любыя работы любой складанасці). МАЗ, 10 тон (прывоз і адвоз). УНП391051503. Т.: 8-029-710-76-67, 8-029-518-50-85+1

Рэстаўрацыя ваннаў, эмаль, колер на выбар. УНП 391240879 ІП Пазняк Н.Н. Т.: 8-033-306-29-89, 802156-5-38-59 Глыбокае*

Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў на даму. Гарантыя, якасць, кансультацыі.- УНП391072281. Т.: 8-033-601-36-06 (мтс), 8-029-150-64-34(в)**



Кузаўны рамонт любой складанасці: узнаўленне аварыйных аўтамабіляў, рыхтоўка і расцяжка бітых аўто, замена арак і парогаў, пераварка днішча, гофр і глушыцеляў. Антыкаразійная апрацоўка днішча і схаваных поласцяў (пушачным салам, масцікай, гравітэксам і інш.). Рамонт хадавой часткі аўтамабіля. УНП391536274. Т.: +37529-517-66-43 (мтс)+5

**Паслугі электрыка**: усе віды эл\мантажных работ; мантаж і замена эл\праводкі, разетак, выключальнікаў і т.п.; рамонт эл\абсталявання. Хутка, якасна, гарантыя. УНП391530659. Т.: 275-99-16(мтс) (Аляксандр)

Будаўнікі з вялікім вопытам работы выканаюць: заліўка фундамента (рамонт і ўцяпленне старога фундамента), кладка блокаў, рамонт і афарбоўка дахаў, агароджы, устаноўка акон і дзвярэй, рамонт і ўкладка падлогі. Усе ўнутраныя і вонкавыя аддзелачныя работы. ІП 391077242. Т.: 245-38-28(мтс), 8-044-471-98-39(в)+6

Прыватны прыём у доктара-кардыёлага. Г. Глыбокае, вул. Чырвонаармейская, 39. УНП 391343533. Запіс па тэлефоне: 8-029-862-85-59***

Распілую і пасяку дровы. Кошт па дамове. № чэка 11641. Т.: 8-029-512-23-09 (мтс)

Аддзелачныя работы: укладка пліткі, аддзелка гіпсакардонам, вагонкай, сайдзінгам, падлогі, перагародкі, штукатурныя, бетонныя работы. ІП Касцюк П.І. УНП391534838. Т.: +37529-299-69-16 (мтс), +37529-944-63-93 (в)***

## Шукаю працу:

Устанаўлю адкосы любой складанасці. Дастаўка матэрыялаў. Устанаўлю ацяпленне, газавы кацёл, душавую кабіну, бязбашанку, ПВХ, ламінат, плітка, дзверы, сантэхніка, электрыка. Дастаўка матэрыялаў, дапамога ў выбары. Устанаўлю, адрамантую дах: шыфер, андулін. Без шкодных звычак. Т.: 595-48-68+10

Масаж дарослы і дзіцячы, антыцэлюлітны масаж. Масаж пасля траўмаў і інсультаў. Медадукацыю і вопыт маю. Т: 8-029-717-69-38*

Апрацоўка агародаў. Т.: 8-029-514-15-53

Рамонт, чыстка, штукатурка ацяплялных печаў. Т.: 517-24-22(мтс), 8-02154-4-33-23

Дапамагу апрацаваць агарод трактарам (МТЗ-82, плуг, дыскі, культыватар, саджалка). Т.: 8-029-599-58-55**

**По пытаннях РАЗМЯШЧЭННЯ РЭКЛАМЫ на старонках «Вольнага Глыбокага»** звяртацца па тэлефоне МТС: **8-029-813-99-99 (Наталля)**

## Прапаную працу:

Патрабуецца на пастаянную работу рабочы на будоўлю. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т:8029-286-65-32(мтс)+

Патрабуецца столяр, плотнік зрабіць паліцы - стэлажы ў магазіне. Т.: 8-029-714-00-74 (мтс)+

Патрабуецца вадзіцель-міжнароднік кат. С, Е. Паездкі па СНГ. Т.: 8-029-750-08-76

Патрабуецца вадзіцель кат. Е. Т.: 8-029-626-49-73

Прыватнаму транспартнаму прадпрыемству на пастаянную работу патрабуецца слесар. Пажадана з уменнем выконваць эл\зварачныя работы. Т.: 8-029-211-27-11 (мтс)***

Патрабуецца трактарыст для работы на МТЗ з прычэпам. УНП390271248. Т.: 8-029-713-36-35

Патрабуецца вадзіцель з кат. СЕ для перавозкі грузаў па СНГ, з вопытам работы. Т.:8029-750-08-76****

## Беларусы змогуць заняць да палучкі ў мабільнага аператара

■ finance.tut.by

Абаненты VELCOM змогуць заняць у мабільнага аператара да 100 рублёў у месяц на аплату тавараў і паслуг з дапамогай смартфона. Скарыстацца грашовым лімітам можна будзе праз прыкладанне v-банкінг, а вярнуць іх без працэнтаў патрэбна да 20 чысла наступнага месяца.

Пасля запуску «v-кашалька», атрымаць да 100 рублёў на ўласныя патрэбы першапачаткова змогуць толькі абаненты VELCOM, якія з'яўляюцца фізічнымі асобамі. Грошы можна выкарыстоўваць для аплаты амаль усіх паслуг праз АРІП - ад камунальных плацяжоў да дзіцячых гурткоў. Сродкі таксама можна траціць на набыццё тавараў у інтэрнэт-крамах, якія прадстаўлены ў адзіным разліковым прасторы.

Атрыманым грашовым лімітам можна карыстацца да 20 чысла наступнага месяца. У залежнасці ад дня, калі ён быў выкарыстаны, тэрмін растэрміноўкі вар'іруецца ад 21 да 50 дзён. Каб атрымаць доступ да паслугі, не трэба падаваць пашпартныя дадзеныя і іншыя дакументы. Пагасіць запазычанасць можна папаўненнем рахунку. «За пратэрміноўку штрафы не прадугледжаны. Уключаецца стандартны механізм, як і ў выпадку наяўнасці пратэрмінаванай запазычанасці па рахунках Велком», - удакладняюць у кампаніі.

Мабільны аператар не будзе спаганяць працэнты за карыстанне грашыма. Але існуе абаненцкая плата за «v-кашалёк» - 3 рублі ў месяц. Прычым першы месяц абанплата адсутнічае.

## Віншаванкі

*Івана Каліксавіча Пачкоўскага*

*Віншуем з 80-гадовым юбілеем!*

Живи, родной наш, сотню лет,
Пусть не убудут твои силы,
За всё, что делаешь для нас,
Огромное тебе спасибо.
Пусть в глазах твоих добрых, лучистых
Будет вечно гореть яркий свет,
Много дней тебе светлых и чистых
И здоровья на две сотни лет.



*Жонка, дзеці, унукі, праўнукі.*

*Дарагога брата*

*Івана Каліксавіча Пачкоўскага*

*Віншуем з 80-годдзем!*

Прожито много разных дней,
Дней горьких, радостных, счастливых,
И вот настал твой юбилей –
Один из самых дней красивых.
Пусть эта замечательная дата
В твоей душе оставит добрый след.
Желаем мы всего, чем жизнь богата:
Здоровья, счастья, долгих лет.



*Сястра Ванда і яе сям'я.*

## Усміхніцеся

Контрольная. Преподаватель внимательно следит за учениками, и время от времени выгоняет тех, у кого заметил шпоры. В класс заглядывает завуч: — Что, контрольную пишем? Здесь наверное полно любителей посписывать! Преподаватель отвечает: — Нет, любители — за дверью. Здесь — только профессионалы.

***

Два пенсионера сидят возле фонтана на скамейке. Мимо проходит девушка в мини-юбке. Один пенсионер говорит:

- Эх, было бы сейчас мне лет так 18!

Второй удивленно:

- Обалдел ты, что ли? Из-за каких-то пяти минут счастья снова сорок лет работать?!

***

Отец забрал дочку из садика и по дороге домой зашел в пивной бар.

- Дочка, на, попробуй, что мне здесь налили!

- Фу, какая гадость!

- Вот, а вы с мамой думаете, что я тут варенье ем!

***

Встречаются два депутата — один прокурор, а второй бизнесмен.

Бизнесмен говорит:

— Слушай, вот у меня есть собственный бизнес. Коллеги-бизнесмены помогли деньгами, я на них и вел предвыборную кампанию. А ты на какие шиши?

Прокурор отвечает:

— Отпускные получил.

— Ничего себе отпускные у вас в прокуратуре!

— Так это смотря кого отпустить...

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | |
| Узкая лента из цветной бумаги | Дерево обмана | Обещание | | Детский ... | | Плен | Музыкальная девятка | |
| | | | | Ратник | | | | |
| Самая высокая вершина Японии | Вид спереди | | | | | Подъемник в доме | Федерация шахмат | |
| | | | Штрафное ... | Углубление в стене | | | | |
| | Союз государств | | | | | Самоуверенность | | Судья |
| | | | | Капитан несамоходного судна | Женское имя | | | |
| | Столица Индии | Морда | | | | | | |
| | | | | | Великий ... | | Крупная змея | |
| | Форель из Севана | | Художник ("Привал арестантов") | | | | | |
| | | | Рыба | | Расточительный человек | | | |
| | Глава города | | | | Пивной ... | | | |

**Ответы на сканворд № 15**

**По горизонтали:** Зоя. Куга. Приз. Нужда. Ер. Икт. Поза. Эль. Бдение. Шпон. Носов. Волхв. По. Реактор. Богач. Инд. «Песняры».**По вертикали:** Лаура. Опак. Яр. Крепыш. Гнездо. Зелье. Диод. Тэн. Лидо. Еропкин. Прогон. Нахрап. Сотня. Вор. Вече. Одр.

## ГАРАСКОП НА НОВЫ ТЫДЗЕНЬ

**АВЕН.** Вас чакае вельмі перспектыўны тыдзень, будуць раптам узнікаць спрыяльныя магчымасці ў прафесійнай сферы. У пачатку тыдня загадайце жаданне, і яно папросту можа спраўдзіцца. Вырашайце ўсе справы без мітусні і паспеху. Не лянуйся звярнуцца да мінулага досведу і здаровага сэнсу, прымаць рашэнні з нуля вас ніхто не прымушае. У другой палове тыдня неабходна паказаць сваю ініцыятыўнасць і смеласць. На гэтым тыдні праявіце максімум вытрымкі пры зносінах з дзецьмі.

**ЦЯЛЕЦ.** На гэтым тыдні не пажадана гуляць у хованкі з начальствам і прадстаўнікамі закона і парадку, вы ўсё роўна прайграеце. Надыходзіць спрыяльны час для паездак, падарожжаў, экскурсій. Прызнанне вашых заслуг дзелавымі партнёрамі і сябрамі апынецца для вас прыемным сюрпрызам. Вы зможаце зірнуць на многія рэчы па-новаму, і ўбачыць тое, што раней не заўважалі, гэта надасць упэўненасць у сваіх магчымасцях. У канцы тыдня пастарайцеся пазбягаць канфліктаў, не парушаць ніякімі дзеяннямі камфорту і свету ў душы. Выхадныя прысвяціце сабе, займіцеся самаадукацыяй.

**БЛІЗНЯТЫ**. На гэтым тыдні ў вас з'явіцца магчымасць вырашыць цяжкое, але важнае пытанне, прычым, усё павернецца на вашу карысць. У працы магчымы нечаканы і цікавы паварот. Раней пачатыя справы будуць паспяхова прасоўвацца. Другая палова тыдня можа апынуцца актыўным і насычаным часам, у вас з'явіцца магчымасць рызыкнуць і дамагчыся поспеху, але галоўная задача - не паддавацца эмоцыям. У канцы тыдня для дасягнення мэтаў набярыцеся цярпення.

**РАК.** На гэтым тыдні пажадана скласці загадзя падрабязны план спраў і сустрэч і імкнуцца не змяняць яму. У першыя дні тыдня пры вырашэнні прынцыповых пытанняў цвёрда адстойвайце свае перакананні. У сярэдзіне тыдня ў вас будзе атрымоўвацца любая праца. Старайцеся не прапусціць важную інфармацыю, што датычыцца вашага асабістага жыцця. У выхадныя не расслабляйцеся, давядзіце да канца ўсе справы, запланаваныя на гэты тыдзень. Сачыце за сабой, не дазваляйце раздражненню выплюхвацца вонкі.

**ЛЕЎ.** Магчыма, вам пара разгрузіць свае плечы ад чужых праблем. Тут жа з'явіцца час заняцца сваімі ўласнымі. Перагледзьце свой гардэроб на прадмет вясновага абнаўлення. У сярэдзіне тыдня лепш не трапляйцеся на вочы начальству, яно можа апынуцца не ў лепшым настроі. У другой палове тыдня калегі могуць звярнуцца да вас у пошуках справядлівасці, пастарайцеся не расчараваць іх чаканні. У выхадныя самы час сабраць гасцей і здзівіць іх кулінарнымі шэдэўрамі ўласнага прыгатавання.

**ПАННА.** Вам неабходна спусціцца з нябёсаў на зямлю, каб вызначыць свае далейшыя планы і галоўную лінію вашай кар'еры. У пачатку тыдня на працы лепш паменш прыцягваць да сябе ўвагі. Ваш дэвіз: «сціпласць і тактоўнасць», тады спадарыня фартуна не забудзе ўсміхнуцца вам у патрэбны момант. Ёсць магчымасць атрымаць доўгачаканую вестку ад далёкіх сваякоў або сяброў. Другая палова тыдня - не ваш час, паспрабуйце правесці яго ціха і спакойна.

**ВАГІ.** Магчымыя перамены як у асабістых, так і ў прафесійных справах. Не будуйце залішне фантастычных планаў, расчараванне ад няўдачы ў іх рэалізацыі могуць прымусіць вас прыняць неабдуманае рашэнне. У другой палове тыдня паспрабуйце пазбегнуць удзелу ў спрэчках і канфліктах, лепш адсядзецца ў баку, і праблема хутка вырашыцца сама сабой. Магчыма зблiжэнне з цікавым і ўплывовым чалавекам. Выхадныя - выдатны час для прыёму гасцей або паездкі на пікнік.

**СКАРПІЁН.** На гэтым тыдні ўпэўненасць ва ўласных сілах і аптымізм дапамогуць заваяваць увагу навакольных і ўмацаваць добрыя адносіны з начальствам. На працы - удалая творчая паласа, можна разлічваць на прэмію, добразычлівасць і разуменне ва ўзаемаадносінах з калегамі. Вы можаце істотна папоўніць свае веды, тым самым падняўшыся на новую інтэлектуальную вышыню. Захоўвайце душэўную раўнавагу. Да канца тыдня, пасля бесперапыннай мітусні, вас будуць чакаць вельмі прыемныя падзеі, пра якія вы так доўга марылі. Новыя ўражанні ў выхадныя дні дадуць ежу для новых задум.

**СТРАЛЕЦ.** На гэтым тыдні вам проста неабходна засяродзіцца на адной галоўнай мэце, тады яна пачне набліжацца да вас. Спрыяльны час для дзеянняў, накіраваных на ўмацаванне сваёй рэпутацыі і павагі сярод калегаў. У першай палове тыдня магчымыя пэўныя цяжкасці са старымі дзелавымі партнёрамі або мужам, які раптам можа стаць занудай. Праявіце цярпенне і пачуццё гумару, і ўсё наладзіцца.

**КАЗЯРОГ.** Гэты час спрыяльна для рашучых дзеянняў, пераменаў і выразнага планавання будучых падзей. У першыя дні тыдня пажадана пазбавіцца ад грузу дробных нявырашаных праблем. Пачынаючы з сярэдзіны тыдня, перад вамі будуць раскрывацца разнастайныя магчымасці, якія спрыяюць заваяванню новых вяршынь. У другой палове тыдня вялікая рызыка выпусціць з выгляду нешта важнае, лепш усё запісваць. У выхадныя паспрабуйце захоўваць раўнавагу і не раздражняцца з-за блізкіх людей.

**ВАДАЛЕЙ.**На гэтым тыдні вам перыядычна давядзецца выпраўляць памылкі, перараблялі частку спраў, вяртацца да адкладзеных заданняў з-за непрадбачаных абставінаў. Вам неабходна сканцэнтравацца, каб накіраваць падзеі ў патрэбнае рэчышча. Паспрабуйце выконваць лагічную паслядоўнасць у дзеяннях. Далёка не ва ўсім, што будзе адбывацца ў непасрэднай блізкасці ад вас, варта ўдзельнічаць. Часам лепш прамаўчаць і адгарадзіцца.

**РЫБЫ.** Можа з'явіцца шанец далейшага прасоўвання па службе. Пажадана ўстрымлівацца ад любых абяцанняў, бо іх выкананне запатрабуе ад вас такіх выдаткаў, дазволіць сабе якіх вы пакуль не можаце. Сярэдзіна тыдня - не той час, калі варта спрабаваць давесці любую справу да пераможнага канца, вы занадта стаміліся. У канцы тыдня не варта спрачацца з калегамі і начальствам. Асабліва ўпартыя і працавітыя асобы маюць шанец закласці трывалы падмурак пад будынак уласнага дабрабыту. Будзьце асцярожныя ў ацэнках, лепш трохі схітраваць, аднак прыняць дыпламатычнасць, чым у адкрытую нажыць сабе ворага.

«Вольнае Глыбокае»
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.
Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 18. 04. .2017 г. у 20[00]
Наклад 1400 паасобнікаў

Рэдактар: Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
Тэлефон/факс: (02156) 5-52-94;
E:mail: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, п/с №3
Замова 208

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў. Спасылкі на «Вольнае Глыбокае» абавязковыя.
Газета набраная і звярстаная на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае».
Надрукаваная ў друкарні ТДА «Знамение», г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Ліц. ЛП №02330/85 ад 23.01.2014
Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, пак. 1, г. Глыбокае